ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№2 (119) люты 2021 год
CATHOLICNEWS.BY



# Святы Айцец атрымаў другую дозу вакцыны супраць каранавірусу

**Як і планавалася, праз тры тыдні пасля першай дозы, атрыманай 13 студзеня, Папа Францішак вярнуўся 4 лютага ў часовы лазарэт у Зале Паўла VI, каб завяршыць працэс імунізацыі супраць COVID-19, – паведаміла Avvenire.**

Пантыфік атрымаў першую дозу вакцыны ў адзін дзень з Папам на пенсіі Бэнэдыктам XVI.

З 13 студзеня ў Ватыкане трывае кампанія па ўсеагульнай вакцынацыі супраць COVID-19. Спачатку прышчапіліся тыя, хто знаходзіцца ў зоне рызыкі: персанал сфераў аховы здароўя і грамадскай бяспекі, пажылыя і супрацоўнікі, якія стала кантактуюць з насельніцтвам. Зараз ідзе вакцынацыя супрацоўнікаў Святога Пасаду і пенсіянераў, а таксама іх блізкіх, застрахаваных у Фондзе медыцынскай дапамогі (FAS). Кампанія праходзіць на добраахвотнай аснове.

Ватыкан замовіў каля 10 тыс. дозаў вакцыны ў нямецкага вытворцы Biontech і яго партнёра з ЗША Pfizer.

Як вядома, 5-8 сакавіка Святы Айцец збіраецца наведаць Ірак. Ватыканскія арганізатары візіту паставілі ўмову для тых, хто будзе суправаджаць яго ў паездцы: яны ўсе павінны быць прышчэпленыя супраць каранавірусу.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Карнэт замест аргана

**У парафіі Святога Падрэ Піа ў Лёзне няма арганіста. Але затое ёсць свой музыка на духавых інструментах.**



Стар. 16

## “С целью обрусения края”:

**гісторыя і дзейнасць Мінскага вучылішча арганістаў (1871–1897 гг.)**



Стар. 4–5

## Самая старэйшая манахіня Еўропы перанесла каранавірус



Стар. 6

## Навошта святар падчас Імшы кладзе фрагмент гостыі ў келіх?



Стар. 13

Больш матэрыялаў чытайце на сайце **Catholicnews.by**





# Марыя – Некалькі думак

**Выява, над якой хацелася б сёння паразважаць, мае назву "Марыя і Ева". Гэта малюнак пастэллю і алоўкам, створаны сястрой Грэйс Рэмінгтан OCSO з ордэна сясцёр-цыстэрцыянак абацтва Місісіпі.**

Выява размешчаная на віншавальнай паштоўцы і даступная для пакупкі. Асноўным сродкам утрымання сясцёр з'яўляецца прадукцыя і продаж крэмавых трапісцкіх карамелек. Па гэтым адрасе можна наведаць іх сайт: https://www.monasterycandy.com/

Сімволіка гэтай цудоўнай выявы ў многіх сэнсах прапануе нам кароткі пералік усіх нашых ісцін веры ў Марыю. Сама форма і эстэтычнае афармленне намякаюць на непрыхаваную ўразлівасць Евы і лёгкую радасць Марыі. Як вы маглі здагадацца, з левага боку на малюнку знаходзіцца Ева. У яе вобразе мы бачым саміх сябе, якія спатыкаюцца на шляху, бо ногі спутаныя змеем.

## 1. Сад

У многіх культурах (уключаючы Старажытнаегіпецкую і Месапатамскую) сад з'яўляецца месцам для гасціннага адпачынку. Яго абвадняюць, апрацоўваюць, абразаюць. Усё прызначана для сустрэчы і зносін. У кнізе Быцця Бог сам шпацыруе па садзе, раскрываючы сваё сяброўства і блізкасць з чалавекам. Сад – гэта падарунак, дадзены чалавеку, каб ён мог яго апрацоўваць і клапаціцца пра яго. На жаль, сад – гэта таксама і вобраз з Бібліі, у якім раскрываюцца негатыўныя пачуцці, зайздрасць і забойствы. Мы можам убачыць гэта ў садзе Сюзаны (Дан, 13), але, перш за ўсё, у вінаградніку Набота (1 Вал, 21).

У прарочых тэкстах сад нагадвае нам пра здаровага і ціхамірнага чалавека.

У "Песні песняў" сад служыць вобразам кахання. Жаніх кажа сваёй каханай: "Ты сад замкнёны, мая сястра, мая нявеста; ты закрыты крыніцай, запячатаны фантан"("зачынены сад" пагрэцку азначае "рай", – Песні Песняў 4,12).

Нарэшце, у Евангеллі паводле Яна ў раздзеле 18 сад зноў становіцца месцам здрады.

Усё гэта нагадвае, што мы, на самай справе – гэта той самы сад. У нашых сэрцах працягваецца бесперапынная драма вернасці і любові, слабасці і здрады. Аднак разглядаючы малюнак, мы ўзгадваем, што Марыя ў сваёй паслухмянай вернасці разарвала заганнае кола. Па гэтай прычыне яна з'яўляецца "spes nostrae" (Нашай Надзеяй).

## 2. Арка

Арка займае бачнае месца ў каталіцкай архітэктуры і мастацтве. Яна можа ўвасабляць і сімвалізаваць шмат што: сілу і падтрымку, лёгкасць і адкрытасць, пачатак і канец. У міфалогіі аркі дзвярныя праёмы разумеюцца як парогі ў часе і прасторы (chronos, часовы свет), праз якія чалавек праходзіць, каб увайсці ў іншы від часу і прасторы (kairos, духоўны свет).

Арка – гэта моцны і натхняльны вобраз, але адначасова парадаксальны, бо пабудаваны на слабасці. Леанарда да Вінчы аднойчы напісаў, што "арка – гэта не што іншае, як сіла, выклікаеная двума слабасцямі. Бо арка ў будынках складаецца з двух сегментаў круга, і кожны з гэтых сегментаў, будучы сам па сабе вельмі слабым, імкнецца ўпасці, і паколькі адзін супрацьўляецца падзенню другога, дзве слабасці ператвараюцца ў адзіную сілу".

Таму калі мы праходзім праз аркі нашых касцёлаў, нам трэба распазнаць гэтую перамену ў часе. І калі разважаем над гэтай выявай, то мы пакліканыя зрабіць тое ж самае. Мы ўступаем у нешта асаблівае. Тут сустракаюцца гісторыя і вечнасць. Смутак Евы і радасць Марыі ўказваюць на гістарычныя рэаліі (смутак Евы адносіцца да смутку чалавецтва на працягу гісторыі), але яны таксама паказваюць на вымярэнне вечнасці: канчатковае збаўленне ад слабасці і граху, наша выратаванне ў Езусе Хрысце, крыніцы нашай вечнай радасці.

## 3. Плод

Уважлівае вока ўбачыць на гэтым малюнку тры віды "плоду". Першыя два ляжаць навідавоку, мы знаходзім ужо ў дэкарацыі аркі. Здаецца, гэта нейкае пладовае дрэва. Плады выглядаюць здаровымі, смачнымі і спелымі. Гэта па-першае. Другі плод бачым у руках Евы – відавочнае адсыланне да таго моманту, калі яна бярэ плод дрэва пазнання і есць яго (Быц 3). Трэці від плоду схаваны ва ўлонні Марыі: гэта, вядома, Езус Хрыстус. Памятаем, як св. Альжбета ўсклікнула: "... праблаславёны плод улоння твайго!" (Лк 1, 42).

У той час як плод Евы быў "добры для ежы", "захапленнем для вачэй" і здольны "зрабіць чалавека мудрым", плод Марыі, яе сын Езус, здаваўся поўнай супрацьлегласцю. Пасля Яго нараджэння Ёй сказалі, што "меч праб'е Тваё сэрца". У момант пакутаў Хрыста пра Яго можна было б сказаць: "Так было знявечана больш за ўсякага чалавека аблічча Яго, і выгляд Ягоны больш за сыноў чалавечых! Ён быў пагарджаны і прыніжаны перад людзьмі, Муж скрухі і дасведчаны ў хваробах, і мы адварочвалі ад Яго твар свой. Ён быў пагарджаны, і мы ані ў што не ставілі Яго" (Іс 52, 14; 53, 3).

Нарэшце, як кажа Павел, Ён быў "для юдэяў – згаршэнне, для язычнікаў – глупства" (1 Кар 1, 23).

Хаця і парадаксальна, але Езус – сапраўдны плод. Ён з'яўляецца рэалізацыяй кожнага нашага жадання. У гэтым сэнсе мы маглі б сказаць, што быць хрысціянінам – гэта не што іншае, як усведамленне таго, што Езус – нашае ўсё, наша адзіная ежа, наша ўнікальная крыніца шчасця, наш адзіны "плён".

Праз свой грэх і непаслухмянасць Ева паказана на малюнку як адначасова сумная і бясплённая (яна бясплодная, без дзіцяці). Марыя, наадварот, цяжарная. Жыццё – само Жыццё! – закаранілася ў самой Яе істоце і неўзабаве адновіць жыццё ўсіх мужчын і жанчын. Гэта цудоўны сакрэт, які мы знаходзім намаляваным на радасным абліччы Марыі.

З усяго сказанага мы разумеем, што Марыя – гэта і Маці нашага Пана, і Маці ўсіх хрысціян. Яна – наша Мама!

## 4. Рукі і позірк

Грэх дзіўна ўплывае на нас. Спачатку ён прапануе нам усё, а потым пакідае нам толькі сорам і расчараванне. ⇒



# Новая Ева

## з нагоды малюнка

⇒

І ўсё ж па нейкіх дзіўных прычынах мы, як правіла, імкнёмся да яго. Гэта як сверб, каторы мы не можам ігнараваць, ці шнар, да якога мы ўсцяж дакранаемся. Нават стоячы перад тымі, хто мог бы вылечыць нас, мы часта не хочам дазволіць ім убачыць нашае змаганне.

Сум пачынае пасяляцца ўнутры нас. У той час як Марыя апранута ў блакітнае (колер неба), Ева ахінута каштанавымі валасамі – колер зямлі і глебы. Гэта як быццам бы яна забылася, як падымаць галаву. І сапраўды, грэх выклікае ўнутры нас нейкую хваробу Альцгеймера, з-за якой мы забываем пра сваё паходжанне і лёс: вечныя зносіны з Богам, Які ёсць Любоў. Гэта таксама прыводзіць нас да таго, каб закрыцца ад іншых людзей. Мы перастаём глядзець ім у вочы, баючыся, што яны ўбачаць унутры нас.

Позірк Марыі скіраваны на яблык, але я рызыкну сказаць, што яна глядзіць далей. Яна глядзіць на сэрца Евы. Ніколі не забывайце, што хаця Яна нарадзілася без граху, бязгрэшнасць Марыі – гэта плён адкуплення, якое адбылося праз Яе Сына. Яе чысціня і радасць – гэта чысты дар, чыстае прыняцце. Яна таксама зведала бясконцую міласэрнасць Бога, і менавіта па гэтай прычыне Яна можа з міласэрнасцю глядзець на сэрца Евы. Яе позірк – гэта позірк разумення і матчынага спачування.

У руках Марыі заўважаем два жэсты. Левай рукой Яна хапае руку Евы – тую, якая, верагодна, яшчэ нядаўна сарамліва трымалася за плод грэхападзення – і прыцягвае яе да свайго ўлоння. Марыя вучыць Еву першаму ўчынку ў гэтай хрысціянскай драме: трэба спачатку адпусціць свой гонар і сорам, каб знайсці сэрца Жывога Бога, якое б'ецца.

Такая бясконцая любоў занадта яркая для непрывычаеных вачэй і глухіх вушэй, каб яны маглі заўважыць і пачуць. Таму дотык павінен стаць ключавым інструментам у гэтым першым руху. Марыя не прапануе тлумачэнняў і аргументаў, яна проста падводзіць Еву да сустрэчы з Богам, Які стаў Целам. Зусім нечакана Пан дае нам адказ. Ён ратуе чалавека, сам становячыся далікатным, вучачы нас яшчэ раз стаць дзецьмі. І нагадвае нам аб неверагоднай прыгажосці сэрцабіцця Найсвяцейшага Дзіцяці ва ўлонні Маці.

Правай рукой Марыя падымае позірк Евы, якая так прызвычаілася да яго прыгнечанай формы. Далікатна дакранаючыся, Яна скіроўвае позірк жанчыны на свайго ўлюбёнага Сына.

Гэта місія і Марыі, і наша ўласная: абвяшчаць радасную навіну Божага прабачэння (Евангелле) і прывесці ўсіх да Яго Найсвяцейшага Сэрца.

### 5. Святло

Яшчэ адзін элемент, на які я хацеў бы звярнуць увагу, – гэта жоўта-залатое святло, што асвятляе ўвесь малюнак. Гэты колер часта адлюстроўвае боскасць, Божую ласку і Яго прысутнасць. На малюнку мы назіраем, як ён ахінае і ахоплівае абедзвюх – Еву і Марыю.

У сваім Сыне Езусе Хрысце Бог прыбраў усе сумневы. Ён – Эмануэль. Ён з намі. Як у хвіліны нашых няўдач і грахоў, так і ў хвіліны нашай вернасці і паслухмянасці Бог не пакідае нас. Вось там, дзейнічаючы і любячы нас незаўважна. Нават калі Яму давядзецца чакаць тысячы гадоў, пакуль мы нарэшце ахвотна прапануем Яму наша чыстае і шчодрае "так", Ён будзе чакаць.

### 6. Змей

У Евангеллі ад Лукі 1,42 мы чытаем, што, пачуўшы прывітанне Марыі, Альжбета напоўнілася Духам Святым і гучна ўсклікнула: "Шчаслівая Ты сярод жанчын". Мы можам знайсці гэтую фразу ў двух іншых біблейскіх урыўках Старога Запавету: Суддзяў 5, 24 і Юдыт 13, 18–20. У першым выпадку мы даведваемся, што Дэбора і Барак прамаўляюць бласлаўленне над Яіляй пасля забойства Сісеры. На гэтым этапе гісторыі збаўлення мы знаходзімся ў перыяд Суддзяў (1220–1040 да Нараджэння Хрыста). Для Ізраэля гэта цяжкі час. Бог выбірае і заклікае суддзяў устаць і весці свой народ як праз унутраную, так і праз знешнюю барацьбу.

У другім фрагменце падзеі адбываюцца значна пазней, прыблізна ў 589 г. да Нараджэння Хрыста, але сітуацыя аналагічная: Ізраэль прыгнятае магутны замежны вораг, якога завуць Навухаданосар. Узія прамаўляе бласлаўленне над Юдытай, якая абезгаловіла Алаферна, генерала Вавілонскага караля Навухаданосара.

У разуменні Лукі (мы можам быць упэўненыя, што ён добра ведаў Стары Запавет) Марыя – гэта жанчына, Якая, вітаючы ў сваім сэрцы і сваім целе Уцелаўленне Слова, канчаткова перамагае ворага. Адказваючы сваім сціплым і верным "так" Божаму плану, Марыя становіцца прычынай збаўлення як для сябе, так і для ўсяго чалавечага роду.

Таму раннія хрысціяне і Айцы Касцёла, калі чыталі пераклад на лацінскую мову ўрыўка з кнігі Быцця 3,15, "Яна стрышчыць галаву [змея]", звязвалі гэтае выказванне з Марыяй, Якая дзякуючы вернаму прыняццю Божай ласкі нарадзіла Таго, Хто пераможа змяю, гэта значыць, пераможа д'ябла.

Па гэтай самай прычыне сёння мы, хрысціяне, працягваем прасіць дапамогі Марыі. Сваім заступніцтвам Яна як Маці дапамагае нам у нашай бітве супраць д'ябла і супраць спакусаў у нашым жыцці. З самых ранніх гадоў хрысціянства сярод вернікаў было яснае разуменне таго, што Марыя – гэта Новая Ева, Маці ўсіх тых, хто верыць у Яе Сына і ідзе следам за Ім.

***Гарэт Джонсан***
*Пераклад са скарачэннямі*
***кс. Віктара Місевіча***
***Крыніца:*** *https://catholic-link.org/mary-and-eve/*



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# “С целью обрусения края”:

## гісторыя і дзейнасць Мінскага вучылішча арганістаў (1871–1897 гг.)

**Падчас знаходжання беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі (1772–1917 гг.) дзяржаўная палітыка адносна Каталіцкага Касцёла неаднаразова змяняла свой кірунак. Што датычыцца моўнага пытання, то тут змяніліся два вектары.**

**Раіса Зянюк**, *кандыдат гістарычных навук (Мінск)*

Першапачаткова выкарыстанне рускай мовы ў каталіцкім набажэнстве наўпрост забаранялася дзяржаўнымі ўладамі. Гэта было выклікана іх страхам перад магчымым распаўсюджаннем каталіцызму сярод праваслаўных вернікаў. Пераходы з праваслаўя ў іншыя веравызнанні былі заканадаўча забароненыя.

Паўстанне 1863–1864 гг. узмацніла русіфікацыйныя планы ўладаў, у тым ліку адносна Каталіцкага Касцёла на беларуска-літоўскіх землях. Польская мова, якая да таго часу выкарыстоўвалася ў касцёле побач з лацінскай* (падчас казанняў і ў дадатковым набажэнстве), павінна была быць заменена на рускую. 25 снежня 1869 г. Аляксандрам II выдадзены ўказ, што адмяняў забарону Мікалая I выкарыстоўваць рускую мову ў каталіцкім набажэнстве, і дазваляў яе выкарыстанне там, дзе гэта “адпавядала патрэбам паствы”. “Дазвол” улады на месцах зразумелі як загад, у сувязі з чым распачалося паўсюднае выданне распараджэнняў аб адпраўленні дадатковых набажэнстваў і прамаўленні казанняў па-руску.

Пераважная большасць каталіцкага духавенства і парафіян супрацiўлялася русіфікацыі, матывуючы гэта адсутнасцю традыцыі і дазволу кіраўнікоў Каталіцкага Касцёла. Формы супраціву былі рознымі: ад актыўных (акцыі пратэсту, збіцц вернікамі тых святароў, якія ўводзілі дадатковыя набажэнствы па-руску) да пасіўных (непрысутнасць на службе). Да таго ж захаванне моўнай традыцыі ў тыя часы было максімальна магчымай формай супраціву мерапрыемствам расійскіх уладаў і ў пэўным сэнсе выражэннем свайго непадпарадкавання.

Сярод духавенства сустракаліся, аднак, і тыя, што ахвотна падтрымалі рашэнні ўладаў. Колькасць іх была вельмі малой, і ў сваёй дзейнасці па русіфікацыі Касцёла яны патрабавалі сур’ёзнай падтрымкі. Таму дзяржаўныя ўлады пайшлі на чарговы крок, зацвярджаючы стварэнне ў Мінску вучылішча для падрыхтоўкі арганістаў, здольных выконваць па-руску рэлігійныя спевы.

Свайму ўзнікненню вучылішча абавязанае ініцыятыве ксяндза Фердынанда Сенчыкоўскага, які з’яўляўся адным з ідэйных кіраўнікоў русіфікацыйных мерапрыемстваў Рыма-Каталіцкага Касцёла на Міншчыне. Афіцыйна вучылішча распачало сваю дзейнасць 6 кастрычніка 1871 г. Падставай для гэтага стала распараджэнне міністра ўнутраных спраў. Згодна з воляй імператара, вучылішча засноўвалася “на чыста рускіх асновах”.

Цэнтр Мінскай губерні, як месца для размяшчэння вучылішча, быў абраны невыпадкова. На Магілёўшчыне і Віцебшчыне пазіцыі Каталіцкага Касцёла былі не вельмі трывалымі, а на Гродзеншчыне і Віленшчыне – вельмі моцнымі. У першым выпадку русіфікацыйныя мерапрыемствы не мелі б жаданага размаху, у другім – былі б асуджаныя на няўдачу Кс. Ф. Сенчыкоўскі адзначыў, што сталіца Мінскай губерні з’яўляецца найлепшым варыянтам для вучылішча, паколькі “г. Минск есть местность, в которой всякий поляк, если проживает здесь несколько лет, наверно, хотя отчасти успеет изменить свое убеждение в пользу русской национальности. Г. Вильна же или другие подобные ему города Северо-Западного края пропитаны таким фанатическо-польским духом, что всякий русский слабого характера легко ополячится и сделается более вредным обрусению католицизма, чем поляки”.

> **Паўстанне 1863–1864 гг. узмацніла русіфікацыйныя планы ўладаў, у тым ліку адносна Каталіцкага Касцёла на беларуска-літоўскіх землях**

Мэтай навастворанага вучылішча, якая пазней была адлюстравана ў яго статуце, з’яўлялася падрыхтоўка для каталіцкіх касцёлаў арганістаў, здольных выконваць царкоўны спеў па-руску. “С целью обрусения края [...] воспитанники, окончившие курс по-русски в деле религии и благодарные правительству за воспитание, данное им с известным званием и правами, в своём кругу и при отправлении своих церковных обязанностей естественно влияли бы и на народ во пользу русского языка, народного русского духа и правления”. Выпускнік вучылішча быў абавязаны не толькі выконваць спевы падчас набажэнства па-руску. У размовах з пробашчамі падчас службы, у касцёле, у закрыстыі, у прысутнасці парафіян арганісты таксама павінны былі карыстацца выключна рускай мовай. З гэтай мэтай не толькі навучальны складнік у вучылішчы быў прасякнуты “рускім духам”. Гэта праяўлялася і ў рэлігійным жыцці навучэнцаў – ранішнія і вячэрнія малітвы чыталіся на рускай мове.

Будні дзень выглядаў наступным чынам:

*“От 6 часов до 6 ½ утра умывание, приборка спальни и училища*

*От 6 ½ до 7 часов чтение молитвы на русском языке*

*С 7 до 8 ч. повторение уроков в приходском училище*

*С 8 ч. до 2 ч. ученики находятся в приходском училище*

*С 2 ч. до 3 ч. обеденное время, в которое включается и переходка из приходского училища*

*С 3 до 4 ч. свободное для учеников время*

*С 4 до 6 часов после обеда приготовление уроков всех*

*С 6 до 8 часов вечера уроки музыки и пения только при учителе*

*С 8 до 8 ½ ч. ужин*

*От 8 ½ до 9 ½ вечера преподавание заведующим училищем Закона Божия и разъяснение костельных обрядов*

*От 9 ½ до 10 ч. вечера чтение молитвы на русском языке”.*

У вучылішча прымаліся хлопцы рыма-каталіцкага веравызнання, якія мелі музычныя здольнасці. Прыём адбываўся з дазволу загадчыка вучылішча і з папярэдняга дазволу мінскага губернатара. Першапачаткова вучылішча падпарадкоўвалася Міністэрству асветы, але пазней кс. Сенчыкоўскі вырашыў, што мэты ўстановы патрабуюць яе падпарадкавання выключна Міністэрству ўнутраных спраў у асобе мінскага губернатара. Касцельныя ўлады да дзейнасці гэтай установы не мелі ніякага дачынення.

Навучанне ў пачатковы (70-я гг. XIX ст.) перыяд дзейнасці вучылішча было разлічана на пяць гадоў, падчас якіх вучні атрымлівалі агульную і музычную адукацыю. Для атрымання агульнай адукацыі навучэнцы, не маючы пасведчання аб заканчэнні школы, накіроўваліся ў адно з мінскіх двухкласных народных вучылішчаў. На навучанне музыцы і спевам адводзіліся толькі дзве пасляабедзенныя гадзіны. Яшчэ адна гадзіна пасляабедзенных заняткаў прызначалася для вывучэння Закону Божага (катэхізіса) і касцельных абрадаў. Хлопцы, якія на момант паступлення ў вучылішча мелі пасведчанне аб заканчэнні школы, былі вызваленыя ад наведвання агульнаадукацыйных заняткаў.

З пачатку 80-х гг. вучылішча перайшло на двухгадовы тэрмін навучання. З таго часу сюды прымаліся толькі тыя хлопцы, якія мелі пасведчанні аб заканчэнні народнага вучылішча. Адпаведна павялічылася колькасць гадзін, што прызначаліся на навучанне музыцы і спевам.

Намаганні кс. Сенчыкоўскага стварыць амаль ідэальную навучальную ўстанову для падрыхтоўкі будучых арганістаў, у якой апошнія б навучаліся фактычна ўсім тым прадметам, што і каталіцкія святары (катэхізісу, біблейскай і касцельнай гісторыі, лацінскай і рускай мовам, рубрыкам, цырымоніям, спеву і ігры на аргане), на практыцы рэалізаваліся вельмі слаба. Праверка яго дзейнасці ў 1878 г. выклікала наступныя заўвагі: “Грамотность учеников училища, степень их общего развития весьма слабы. Ученики производят впечатление какой-то загнанности, болезненности, нисколько не соответствующих их возрасту и их будущей специальности. Пробывшие по нескольку лет в училище органистов по своему умственному и физическому развитию далеко остаются позади своих однолеток, окончивших курс в народной школе. Слабые успехи учеников объясняются полным недостатком строго обдуманной системы обучения и воспитания, недостатком педагогических сил училища, весьма слабым контролем над ними, и полным отсутствием сколько-нибудь определённой программы”. Тады ж прапанавалася скараціць тэрмін прабывання ў вучылішчы да двух гадоў.

У адказ на крытыку Ф. Сенчыкоўскі прапанаваў чарговы праект, які, па яго меркаванні, яшчэ больш дапамог бы ў русіфікацыі касцёла: хлопчыкаў, каторыя дрэнна вучыліся, прызначыць у далейшым на пасаду закрыстыянаў. Закрыстыяне, на думку кс. Сенчыкоўскага, “после ксендза и органиста занимают серьёзное по своему влиянию на прихожан место”, і таму пры іх наяўнасці “правительство во главе каждого прихода будет иметь три лица, воспитанные в духе русском, и служащие видам правительства, т.е. ксендза, органиста и ризника (закристьяна); они должны быть непременно одного направления и взгляда, ибо это единственный источник, это огниво, распространяющееся на весь приход, следовательно на этот вопрос должно было бы обратить серьёзное внимание, если только в действительности желается привести дело о языке к желанной цели”. Але дадзеная прапанова ў Міністэрстве ўнутраных спраў была сустрэта без энтузіязму. Русіфікацыйныя мерапрыемствы пачыналі быць эканамічна няявыгаднымі. У лісце з Дэпартамента духоўных спраў да мінскага губернатара адзначалася: “обязанности, лежащие на ризниках, едва ли могут оправдывать необходимость пятилетнего их в училище [пребывания] с расходом на каждого по 600 руб.”. Аднак разуменне важнасці русіфікацыйнай палітыкі выклікала прапанову, каб вучні, якія не маглі працягваць курс з-за адсутнасці здольнасцяў, але былі добранадзейнымі, меліся на ўвазе пры з’яўленні вакантных месцаў закрыстыянаў у касцёлах.

⇒

*Пытанне выкарыстання беларускай мовы ў касцёле набыло моц з пачатку XX ст.




**Катэдральны касцёл у Мінску**



**Арган у Мінскай катэдры**

⇒

Адначасова кс. Ф. Сенчыкоўскі распрацаваў праграму, каторую павінны былі выканаць усе вучні ў вучылішчы падчас навучання. Згодна з праектам, выпускнік мусіў грунтоўна ведаць музыку і нотную грамату для фартэпіяна, меладзіканты і скрыпкі, ведаць усе псалмы і гімны на лацінскай мове. Ужыванню рускай мовы прысвячаўся адзінаццаты параграф. У ім адзначалася, што арганіст да атрымання пасведчання павінен ведаць і выконваць усе без выключэння касцельныя гімны, якія існавалі ў рускім перакладзе, а таксама мець перапісаныя ва ўласнай партытуры ўсе ноты і спевы на рускай мове – духоўныя і касцельныя, як і народныя п'есы на рускай мове. Цяжка сказаць, якім канкрэтна спевам на рускай мове навучаліся будучыя арганісты, а таксама хто з'яўляўся іх аўтарам альбо перакладчыкам.

Любыя няўдачы ў выхаванні навучэнцаў у рускім духу кс. Ф. Сенчыкоўскі тлумачыў "тонкостью и находчивостью хитрости польской интриги", а таксама інтрыгамі "ксендзовско-польской партии". Адной з праяваў азначаных інтрыг, на думку Сенчыкоўскага, быў выпадак, апісаны ім ў лісце ад 19 верасня 1876 г. да мінскага губернатара. Там распавядалася, што ў вучылішчы тры гады знаходзіўся дастаткова нерашучы, паслухмяны і добры хлопчык Іосіф Вішнеўскі. Пасля трох гадоў навучання да кс. Сенчыкоўскага з'явілася маці хлопца з прэтэнзіяй, што яе сын худы. Пасля яна стала часта наведваць сына. У выніку ён сапсаваўся, пачаў дрэнна сябе паводзіць. Нарэшце без ведама і дазволу з боку начальства ён сышоў дадому. Бацькі паведамілі, што сын ужо дастаткова дарослы, каб зарабляць грошы. Кс. Сенчыкоўскі адзначыў, што ён цалкам пераканаўся ў тым, што маці хлопчыка, знаходзячыся пад уплывам польскай партыі, падбухторвала сына. Менавіта гэты выпадак падштурхнуў кс. Сенчыкоўскага да думкі, што вучні, якія без уважлівых прычын вырашаць спыніць навучанне, павінны будуць вярнуць яго кошты, што складалі 120 рублёў за год.

Сама адукацыя, якую можна было атрымаць у вучылішчы, з'яўлялася дастаткова прывабнай: акрамя непасрэдна навучання, хлопчык атрымліваў харчаванне, вопратку, бялізну, для вучняў наймаліся кухарка, прачка, пры неабходнасці аказвалася медыцынская дапамога. Хутчэй за ўсё, менавіта гэта падштурхоўвала бацькоў звяртацца з просьбай аб прыёме іх дзяцей у вучылішча. Тут ніколі не было вольных месцаў. Штогод навучалася ад 10 да 22 чалавек. Найбольшая колькасць вучняў прыпадае на першыя гады існавання вучылішча. Бясплатнасць навучання, а таксама поўнае забеспячэнне ўплывалі і на саслоўны склад навучэнцаў, сярод якіх сустракаецца значная частка сялян, а асаблівы рост іх колькасці заўважаецца ў апошнія гады дзейнасці навучальнай установы.

Аднак мэты школы абсалютна не супадалі з інтарэсамі каталіцкай часткі грамадства. Па сведчанні загадчыка вучылішча, які намагаўся, каб яно было папулярным сярод мясцовага насельніцтва, усё адбывалася наадварот. Адзначалася, што "существующее, по отзыву Сенчиковского, в настоящее время среди фанатиков католиков мнение, что Минское училище, скорее, может быть названо училищем православных псаломщиков, чем католических органистов". І таму пасля заканчэння навучання многія з выпускнікоў альбо не распачыналі працу па атрыманай спецыяльнасці, альбо амаль адразу "здраджвалі" атрыманым ідэалагічным настаўленням і распачыналі працаваць у "варожым" расійскаму ўраду кірунку – спяваючы і дапамагаючы ў адпраўленні набажэнстваў па-польску. Верагодна, менавіта такія выпадкі падштурхнулі кс. Ф. Сенчыкоўскага да ўвядзення ў статут вучылішча пункта аб адказнасці за "отступление, измену данной присяги, надувательство и неблагонадёжность (неблагодарность) за даровое воспитание". У выпадку невыканання абавязацельстваў, якія прымаў вучань і яго бацькі на пачатку навучання (выкарыстанне толькі рускай мовы), выпускнік вучылішча караўся адданнем у бестэрміновую ваенную службу.

Пытанне русіфікацыі Каталіцкага Касцёла было вельмі важным для расійскага ўрада. Менавіта таму пасля настойлівых хадайніцтваў Ф. Сенчыкоўскага па рашэнні Дзяржаўнага савета ад 22 красавіка 1877 г. тыя, хто закончыў навучанне ў вучылішчы, вызваляліся ад вайсковай павіннасці на ўзор псаломшчыкаў у праваслаўнай царкве. Вызваленне ад воінскага абавязку, паводле Сенчыкоўскага, "есть делом неизбежным, существенным и единственно сильным в поддержании энергии и добросовестном исполнении обязанности органиста на политическом поприще его служения. Эта мера более всего способна поощрить его к преданности русскому делу, и эта мера, кроме сильнейшего противодействия польским интригантам, является самою рациональною наградою за верное служение Правительству в достижении его предначертаний". Аднак вызваленне ад воінскага абавязку не было бестэрміновым. Ільгота мела моц толькі на той час, пакуль арганіст выкарыстоўвае рускую мову. Дзейнасць арганіста, такім чынам, атрымлівала не выключна рэлігійны, але палітычны характар.

> **"Руская мова ў каталіцкіх касцёлах выклікала масавыя незадавальненні"**

Разумеючы слабыя пазіцыі ўсіх пачынанняў, звязаных з увядзеннем рускай мовы ў дадатковае каталіцкае набажэнства, кс. Сенчыкоўскі добра разумеў і цяжкасці, якія будуць сустракаць арганісты, што служаць па-руску. Іх заработная плата была б мінімальнай. Традыцыйна асобнай крыніцай даходаў як святароў, так і арганістаў былі грашовыя і харчовыя складкі ад парафіянаў. "Весьма естественно, – пісаў Сенчыкоўскі 24 красавіка 1876 г. у сваім рапарце мінскаму губернатару, – что при употреблении русского языка доходы эти прекратились. Поэтому, дабы поддержать энергию и преданность русскому делу и Правительству у молодого органиста, дабы не поставить его в финансовом отношении в полную зависимость от прихожан и ксендза, дабы не заставить его из-за употребления русского языка и воспитания на русских основах страдать почти без куска насущного хлеба, я нахожу необходимым выдавать новым органистам из сумм министерства ежегодного пособия не меньше 100 р.с. всё время, пока органист добросовестно употребляет русский язык".

Такім чынам, русіфікацыя Каталіцкага Касцёла вымагала ад расійскага ўрада фінансавых затрат. Папершае, утрыманне самога вучылішча, а па-другое, далейшая матэрыяльная падтрымка арганістаў. На працягу ўсяго існавання вучылішча ўрад патраціў на яго 106 785 руб. На даплаты "трэбнікаўцам" – тым, хто ўводзіў рускую мову ў набажэнства, – урад вылучыў 241 785 руб. (святарам – да 600 руб. у год, а арганістам – па 180).

Яўны супраціў настаяцеляў касцёлаў увядзенню рускай мовы ў дадатковыя набажэнствы, а таксама выпускнікам вучылішча арганістаў прызнаваў і сам Ф. Сенчыкоўскі, які ў сваіх разважаннях адзначаў, што "ни один настоятель не захочет и не согласится принять мальчика, почти ребёнка, да ещё воспитанного на русском языке". Руская мова ў каталіцкіх касцёлах выклікала масавыя незадавальненні. Польская ж – у любых праявах – атрымлівала падтрымку. Па меркаванні кс. Ф. Сенчыкоўскага, "всякий ксёндз и приход, где польский язык существует, охотно примет удалённого органиста и обеспечит его более чем самого ксендза, служащего на русском языке", а парафіяне "охотно поддерживают органиста, служа на польском языке, который получает большие доходы с прихожан". Спробы мітрапаліта А. Гінтаўта дабіцца дазволу пробашчам самім вырашаць, прыняць альбо звольніць арганіста, былі беспаспяховымі. За адмову прыняць прызначанага арганіста святары атрымлівалі пакаранне, часам нават высылаліся ў глыб Расіі.

> **"За адмову прыняць прызначанага арганіста святары атрымлівалі пакаранне, часам нават высылаліся ў глыб Расіі"**

Вучылішча дзейнічала да канца XIX стагоддзя. 8 сакавіка 1897 г. Міністэрства ўнутраных спраў загадала з 1 чэрвеня таго ж года звольніць усіх вучняў з аказаннем ім матэрыяльнай дапамогі, а сам будынак перадаць у веданне Залатагорскага касцёла. Мэты вучылішча дасягнутыя не былі.

*Пры падрыхтоўцы выкарыстаны матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, а таксама навуковыя публікацыі Р. Зянюк.*

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі:** **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Ірына Шторкіна** *(Віцебск)*, **Валянціна Піткевіч** *(Дзісна)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Сурвіла В.А.** *(Шэметава)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Клемянціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Данілава Г.В.** *(Шуміліна)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Новалукомль)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Даната Пачкоўская** *(Савуткі)*, **Даната Сенькавец** *(Сенькаўцы)*, **Генавэфа Ермаковіч** *(Завараты)*, **Чэслаў Салодкі** *(Дзеркаўшчына)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Галіна Русецкая** *(Несвіж)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Алена Сакалоўская** *(Павяцце)*, **Марыя Канецкая** *(Маладзечна)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Святлана Зайцава** *(Свідно)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Ірына Кухальская** *(Навасёлкі)*, **Ядвіга Піліпенка** *(Параф'янава)*, **Трайко Я.А.** *(Карасіна)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Антон Жменчуроўскі** *(Уліна 2)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Юзэфа Малей** *(Сітцы)*, **Тэрэса Смулько** *(Зорка)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Алена Канчанін** *(Нарач)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Аліна Латыш** *(Паставы)*, **Станіслава Жук** *(Радзюкі)*, **Зоф'я Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Анатоль і Аліна Пярхальскія** *(Глыбокае)*, **Варанько Д.Н.** *(Друя)*, **Галуза Г.А.** *(Падсвілле)*, **Станкевіч Я.І.** *(Віцебск)*, **Яніна Дулінец** *(Радзюкі)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Пачкоўская Д.К.** *(Радзюкі)*, **Усціновіч В.І.** *(Януковічы)*, **Яўгенія Гунько** *(Барысаў)*, **Пілецкая А.В.** *(Новалукомль)*, **Франя Мурашка** *(Даўгінава)*, **Меранкова А.Ю.** *(Ваўкі)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# Папа прывязе з сабой у Ірак каштоўны манускрыпт

**Папа Францішак прывязе з сабой у Ірак каштоўны старажытны манускрыпт, які ў перыяд барацьбы з ісламскімі тэрарыстамі быў вывезены ў Італію.**



Гаворка ідзе пра Сідру – літургічную кнігу сіра-хрысціянскай традыцыі, напісаную на арамейскай мове ў XIV-XV стст. У ёй змешчаны малітвы, прызначаныя на Вялікдзень і свята Святога Крыжа.

Да нядаўняга часу манускрыпт захоўваўся ў касцёле Беззаганнай Панны Марыі ў іракскім горадзе Каракош, у Ніневійскай даліне, аднак з наступам тэрарыстаў у 2014-2017 гг. ён быў тэрмінова “эвакуяваны” ў Італію, дзе прайшоў рэстаўрацыю.

Папа Францішак асабіста даставіць Сідру ў Каракош падчас свайго Апостальскага падарожжа ў Ірак. Яно будзе праходзіць 5-8 сакавіка. Манускрыпт яму перадалі прадстаўнікі Федэрацыі хрысціянскіх арганізацый Міжнароднага валанцёрскага служэння (Federazione degli Organismi cristiani Servizio Internazionale Volontario), якія ў супрацоўніцтве з італьянскім Міністэрствам аховы культурнай спадчыны прымалі ўдзел у ратаванні старажытнай кнігі.

Манускрыпт быў у кепскім стане. Для аднаўлення тэксту, змешчанага на яго старонках, спатрэбілася правядзенне лінгвістычнага аналізу з выкарыстаннем падобных сірыйскіх кніг, якія захоўваюцца ў Ватыканскай апостальскай бібліятэцы. Працэс рэстаўрацыі працягваўся каля дзесяці месяцаў. Адзіным элементам кнігі, які спатрэбілася замяніць, стала нітка, што злучала паміж сабой яе старонкі.

Вяртанне манускрыпта ў Ірак стане часткай працы, накіраванай на аднаўленне грамадскага і культурнага жыцця ў краіне, спакутаванай ад войнаў, нестабільнасці і тэрарызму.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Самая старэйшая манахіня Еўропы перанесла каранавірус

**117-гадовая манахіня з ордэну сясцёр міласэрнасці святога Вінцэнта Дэ Поль (SM) выздаравела ад Covid-19. Як піша Guardian, сястра Андрэ Люсіль Рэндон, што нарадзілася ў 1904 годзе, у мінулым месяцы здала аналіз на каранавірус, які паказаў станоўчы вынік.**

Зараз яна пражывае ў доме для састарэлых святой Кацярыны Лабурэ пад Тулонам, дзе, нягледзячы на жорсткія меры бяспекі, 81 з 88 жыхароў заразіліся каранавірусам. Дзесяць ужо памерлі.

Сястра Андрэ пераносіла хваробу бессімптомна і пастаянна заставалася ў сваім пакоі ў ізаляцыі. Медсёстры паведамілі, што адзінай яе скаргай было “прабыванне ў адзіноце”.

Спадар Давід Тавела, прэс-сакратар дома састарэлых, для мясцовай газеты Var Matin зрабіў наступную заяву: “Манахіня сваімі паводзінамі не паказвала, што баіцца вірусу. Яна не распытвала пра сваё здароўе. Яе больш цікавілі штодзённыя справы. Напрыклад, яна хацела ведаць, ці зменіцца ў сувязі з каранцінам час прыёму ежы і адпачынку. Яна не паказвала страху перад хваробай. Больш за тое, яна мацней перажывала за іншых жыхароў нашага дому, чым за сябе”.

Сястра Андрэ сляпая і перамяшчаецца выключна ў інвалідным вазку. У кляштар яна прыйшла ў 1944 годзе ва ўзросце 40 гадоў. Перад тым як стаць манахіняй, працавала выхавальніцай. У доме састарэлых яна знаходзіцца з 1979 года.



Летась манахіня сказала, што не ўяўляе сабе, як змагла так доўга пражыць. “Я не маю паняцця, у чым сакрэт. Толькі Бог можа адказаць на гэтае пытанне”, – паведаміла яна французскаму радыё. “У маім жыцці было шмат няшчасця. Падчас вайны 1914-18 гг, калі я была дзіцём, таксама пакутавала, як і ўсе іншыя”.

*Пераклад і апрацоўка*
***кс. Аляксея Ляшко**,*
*спецыяльна для Catholicnews.by, паводле agi.it*

# У Санкт-Пецярбургу адрадзіліся Імшы па-беларуску

**14 лютага 2021 года ў расейскім Санкт-Пецярбургу аднавіліся каталіцкія Імшы па-беларуску, паведамляе Белсат.**

Першая за доўгі час беларускамоўная Імша прайшла ў парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі – у капліцы бласлаўлёнага Тэафілюса Матулёніса, які ў 1928–1943 гадах быў дапаможным біскупам Магілёўскім.

Служыў яе пробашч касцёла Януш Прусіноўскі, які раней пэўны час нёс служэнне ў беларускім Сянно і з тых часоў ведае беларускую мову. З ініцыятывай служэння Імшы па-беларуску выступілі мясцовыя беларусы. Ладзілі набажэнства з дапаможнікам, выдадзеным у Санкт-Пецярбургу ў 2006 годзе, калі ў парафіі працаваў семінарыст з Беларусі, будучы ксёндз Сяргей Сурыновіч.

Падчас Літургіі ўшанавалі памяць Тарэсы Шырмы, якая брала актыўны ўдзел у жыцці парафіі, выдавала пабеларуску газету “Krynica” і вяла праграмы на беларускай мове на пецярбургскім хрысціянскім “Радыё Марыя”. Яна памерла 5 лютага.

Служыць Імшу пабеларуску плануецца кожную другую нядзелю. 14 лютага ў ёй узялі ўдзел каля 20 чалавек.



# Святы айцец Піа ахвяраваў сваё жыццё ў інтэнцыі спынення пандэміі

**Айцу Піа таксама давялося перажыць адну з пандэмій, падчас якой памерла шмат людзей. Людзі пісалі да яго лісты, прасілі парады. Ён адказваў, маліўся і ахвяраваў сваё жыццё ў інтэнцыі спынення пандэміі.**

Улетку 1918 года ў Італіі пачалася эпідэмія іспанкі. Усе школы і прадпрыемствы былі зачыненыя. Гэта быў жудасны час, бо, здавалася, немагчыма пазбегнуць гэтага смяротнага вірусу. Многія італьянцы, спалоханыя гэтай сітуацыяй, пачалі звяртацца да айца Піа.

У верасні 1918 года амаль усе жыхары Сан-Джаванні Ратонда захварэлі на іспанку. Усё было зачынена. У наступныя некалькі месяцаў дзвесце з дзесяці тысяч жыхароў памерлі.

Біяграфічнае выданне “Айцец Піа: праўдзівая гісторыя” ўтрымлівае апісанне рэакцыі святога містыка на пандэмію, якая ахінула ўвесь свет, а таксама парады, якія ён даваў. Перапалоханыя людзі звярталіся да яго, молячы выратаваць іх. У адным з лістоў, накіраваных Ніне Кампаніле, ён напісаў наступнае: “Ніколі не бойцеся. Аддайце сябе пад апеку Маці Божай, не грашыце, і хвароба вас не адолее”. І сапраўды так адбылося. Некаторыя духоўныя дочкі святога з Петральчыны захварэлі на іспанку, але ніводная з іх не памерла.

Айцец Піа ўжо раней ахвяраваў сваё жыццё ў інтэнцыі спынення вайны, а таксама за хлопцаў, якія навучаліся ў каледжы, дзе ён на той час быў дырэктарам. Але 17 верасня ён ізноў ахвяруе сваё жыцце ў інтэнцыі спынення пандэміі іспанкі. Неўзабаве, 20 верасня 1918 года, айцец Піа атрымаў стыгматы – бачныя знакі Мукі Хрыста.

Айцей Піа прыгадвае нам вельмі важныя рэчы: што б ні здаралася ў нашым жыцці, трэба даверыць Богу, не баяцца і аддаць сябе пад апеку Панны Марыі.

*Пераклад і апрацоўка*
***кс. Аляксея Ляшко**,*
*спецыяльна для Catholicnews.by, паводле Aleteia.pl*



# Поможем Катеньке слышать!

**Сорокина Екатерина, родилась 11.07.2014. Наша дочь, как и все дети, развивалась хорошо (в физическом плане). Жизнерадостная и активная девочка, очень веселая и милая. Только никто не мог подумать, что ребенок живёт не полноценной жизнью. Как оказалось, Катя практически ничего не слышит, а ведь это очень важно для полноценного развития.**

Катя очень любознательная, всегда стремится познавать мир, но никогда ничего не могла нам сказать, говорила лишь отрывками слов или своими непонятными словами. Бабушка повела Катю к врачу, потому что она не разговаривала. Врач отправила нас в Витебск. Там после обследования нам поставили шокирующий диагноз: нейро-сенсорная тугоухость третьей степени. Нужно делать срочно операцию или купить слуховые аппараты. Так же врачи посоветовали обучаться в специальном саду для деток с нарушением слуха.

Так как в нашем городе функционируют только обычные дошкольные учреждения, мы вынуждены были переехать в Витебск, чтобы Катя смогла обучаться в специальном саду и заниматься с дефектологом. Катя очень старается говорить правильно, занятия с дефектологом пошли ей на пользу. Она уже умеет читать по слогам, одновременно показывая буквы на "языке жестов". Девочка очень любит читать названия магазинов или какие-то вывески на улице.

Но чтобы улучшить речь и расширить кругозор знаний нам очень нужны хорошие, мощные аппараты. Как оказалось, нашей семье они не по карману. Стоимость двух аппаратов 14877 бел. руб. С помощью этих аппаратов (Oticon OPN play 1 BTE 105) наша дочь сможет посещать обычную среднюю школу, обучаться на уровне здоровых деток, пополнять свой словарный запас благодаря общению с хорошо говорящими детьми и быть в обществе полноценно слышащих. Мы просим Вас о помощи для покупки аппаратов, что бы наша дочь могла полноценно развиваться и познавать окружающий мир, а главное, чтобы Катя смогла учиться в школе вместе со своими хорошо слышащими сверстниками. Эти аппараты помогут нашей дочке лучше познавать окружающий мир и облегчат её жизнь.

**Заранее всем огромное спасибо!**

Перевод средств можно осуществлять на благотворительные банковские счета либо пополнить баланс мобильных телефонов родителей Кати, деньги с которых будут переведены на банковский счёт:

Артем +375292963796 мтс

Анна +375292962269 мтс

**Благотворительные счета** открыты в центре банковских услуг отделение номер 200/2015 г. Витебск, пр. Строителей д. 12-199

- **белорусские рубли** – BY18AKBB31340000005730070000 благотворительный счёт
  Транзитный счёт BY27AKBB38193821000300000000
- **евро** – BY89AKBB31342000002640070000 благотворительный счёт
  Транзитный счёт BY27AKBB38193821000300000000
- **доллары США** – BY40AKBB31341000003030070000 благотворительный счёт
  Транзитный счёт BY27AKBB38193821000300000000

**Карта Белагропромбанк:** 4320 3700 2142 0668 до 11/22 ARTSIOM SAROKIN

**Адрес для почтовых переводов** 211800, Витебская область, город Глубокое, ул. Советкая, д. 207, кв 21.

Получатель: Сорокина Анна Алексеевна (мама Кати).

# Жанчыны ў Новым Запавеце



**Сакавік – месяц, у якім святкуецца вясеннее свята ўсіх жанчын, дзяўчат і дзяўчынак. Чытаючы Евангелле, мы бачым, што на ўсім шляху зямнога жыцця і служэння Госпада Езуса Хрыста Яму спадарожнічаюць жанчыны.**

Сярод іх ёсць і габрэйскія праведніцы, і грэшныя язычніцы, але ўсіх аб'ядноўвае адно: кожная з іх у той ці іншай меры паслужыла Хрысту і Яго праслаўленню. Адны сведчаць аб Месіі, другія ўяўляюць сабой узор глыбокай веры, трэція аддаюць Яму пашану, чацвёртыя ж атрымліваюць аздараўленне, умацоўваючы тым самым веру навакольных. Жанчыны значна хутчэй за мужчын успрымаюць вучэнне Госпада. У сэрцах жанчын вера нараджаецца лягчэй і ўмацоўваецца хутчэй, нават язычніцы вызнаюць Госпада Хрыста як Месію, у той час як вучні яшчэ не моцныя ў веры.

Новы тэст "Каталіцкага Весніка" прапануе праверыць веды і яшчэ раз звярнуць сваю ўвагу на вобразы жанчын, якія сустракаліся на шляху Хрыста.

**1** Якая жанчына была ўдавой тры гадзіны? *(Дз. 5, 7-10)*



**А.** Сусана
**Б.** Сапфіра
**В.** Саламея

**2** Пазнай, пра каго ідзе гаворка. Жанчына дзіўнага лёсу… У сталым узросце бясплодная, але не адчайвалася, разам з мужам прасіла Бога аб дзіцяці, і была пачутая. Яна праявіла больш даверу да Бога, чым яе муж, які засумняваўся ў Божым дары і быў уражаны нематой да самага нараджэння сына.



**А.** Ганна
**Б.** Альжбета
**В.** Сара

**3** Жанчына, якая сваімі слязамі абмыла Езусу ногі і абцёрла сваімі валасамі?



**А.** Марта з Бэтаніі
**Б.** Лідыя
**В.** Марыя Магдалена

**4** Каму Езус сказаў: "Дачка! Вера твая ўратавала цябе"? *(Мк 5, 34)*



**А.** Жанчыне, якая шмат гадоў цярпела на крывацёк
**Б.** Жанчыне-хананеянцы, якая прасіла з дачкі выгнаць дэмана
**В.** Жанчыне, якая доўгі час была згорбленая і не магла выпрастацца

**5** Імя адзінай жанчыны, якая ў Новым Запавеце названа прарочыцай?



**А.** Лідыя
**Б.** Альжбета
**В.** Ганна

**6** Як звалі сясцёр Лазара, з якімі сябраваў Езус?



**А.** Рут і Эстэр
**Б.** Лідыя і Табіта
**В.** Марыя і Марта

**7** Аднойчы Езус аздаравіў жанчыну з сям'і Сымона-Пятра, а менавіта каго? *(Мц 8, 14-15)*



**А.** Маці Сымона-Пятра
**Б.** Жонку Сымона-Пятра
**В.** Цешчу Сымона-Пятра

**8** Кім была жанчына ля калодзежа, тая, з якой Хрыстос размаўляў, пакуль Яго вучні хадзілі па ежу? *(Ян 4, 4-26)*



**А.** Самаранка
**Б.** Хананеянка
**В.** Філістымлянка

**9** Хто намагаўся папярэдзіць Пілата, каб не чыніў ніякай крыўды Хрысту?



**А.** Дачка Пілата
**Б.** Жонка Пілата
**В.** Маці Пілата

**10** Імя жанчыны, якая шыла прыгожыя кашулі і сукенкі і якую праз малітву ўваскрасіў Пётр? *(Дз. 9, 36-41)*



**А.** Табіта
**Б.** Сапфіра
**В.** Прысцыла

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

Правільныя адказы на старонцы 16

# Дзень міласэрнасці –


Святліца для дзяцей у Глыбокім. Кулінарныя заняткі

**Дарагія сябры!**
**7 сакавіка – трэцяя нядзеля Вялікага посту. У гэты дзень у парафіях Віцебшчыны збіраюцца ахвяраванні на падтрымку дзейнасці Дабрачыннага каталіцкага таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі.**

**с. Дар'я Галубкова OV**, *тэкст;*
*фота з архіва "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі*

Карытас нясе дапамогу тым людзям, каму яна найбольш патрэбная, нягледзячы на расавую, нацыянальную ці рэлігійную прыналежнасць. Супрацоўнікі і валанцёры ў сваёй дзейнасці рэалізуюць Хрыстовы наказ любіць адно аднаго і быць міласэрнымі, як наш Бог.

Уже згодна з добрай традыцыяй мы хочам распавесці чытачам "Каталіцкага Весніка" пра нашы дабрачынныя і сацыяльныя праекты за апошні год. Пандэмія каранавірусу, вядома, унесла свае карэктывы ў планы і жыццё грамадства. Гэты лёс не абмінуў і "Карытас". Некаторыя праекты давялося прыпыніць або абмежаваць у дзеянні, аднак замест іх у сваю чаргу з'явіліся іншыя, больш актуальныя ў часе эпідэміі.

**Цэнтр дзённага знаходжання для людзей з інваліднасцю** дзейнічае пры "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі з 2003 года. У будныя дні маладыя людзі з інваліднасцю прыходзяць у цэнтр займацца рукадзеллем, творчасцю, музыкай, працаваць на камп'ютары, гатаваць смачныя стравы ды і проста сустрэцца разам за кубачкам гарбаты. Хлопцы і дзяўчаты разам адзначаюць дні нараджэння і іншыя святы, гуляюць у настольныя гульні. Падобны цэнтр дзейнічае таксама пры парафіяльнай арганізацыі "Карытас" у Глыбокім. На цяперашні момант цэнтры наведвае больш за 60 чалавек з інваліднасцю.

**Студыя інклюзіўнага танца ІМПЭТ** пры "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі дзейнічае ўжо пяты год. Яна аб'ядноўвае аматараў танца з інваліднасцю і без яе, дзяцей і дарослых, якія разам танцуюць у інвалідных вазках і на нагах. Эпідэміялагічная сітуацыя абмежавала ўдзел наведвальнікаў студыі ў рэпетыцыях і выступах. Тым не менш заняткі не спыняюцца, а асноўны націск робіцца на аздараўляльныя практыкаванні і танцавальную тэрапію.

**Праца з пажылымі і хворымі людзьмі – дэменцыя.** Зусім нядаўна ў Віцебску на базе "Карытас" адкрыўся "Рэсурсны цэнтр сацыяльнай інтэграцыі". У ім будзе арганізавана дзённае знаходжанне для пажылых людзей з дэменцыяй, з інваліднасцю, а таксама іх апекуноў. У цэнтры будуць праводзіцца сустрэчы, круглыя сталы са спецыялістамі ў галіне барацьбы з дэменцыяй, майстар-класы, музычныя вечары. Плануюцца кансультацыі каталіцкага псіхолага, у тым ліку па тэлефоне і ў рэжыме анлайн. Сацыяльныя працаўнікі цэнтра таксама адведваюць пажылых людзей дома, аказваюць сацыяльную дапамогу, садзейнічаюць у адаптацыі жылога памяшкання.

**Дапамога абяздоленым.** Сумесна з нашым даўнім партнёрам "Карытас Лінц" (Аўстрыя) мы нясём дапамогу тым, каму яна асабліва патрэбная, у выглядзе прадуктаў харчавання, адзення, абутку, дроваў для ацяплення прыватных дамоў. Мы таксама пачалі рыхтавацца да сезону вясновых прац: закупляць хатніх жывёлаў, птушак, саджанцы для асобаў і сем'яў у патрэбе, якія вядуць уласную гаспадарку.

**Дапамога для цэнтраў часовага (начнога) знаходжання бяздомных асобаў у Віцебску і Оршы.** Цэнтрам у Віцебску "Карытас" апякуецца ўжо шмат гадоў, закупляючы прадукты харчавання, адзенне і гігіенічныя сродкі для людзей без пэўнага месца жыхарства, а таксама мэблю для абсталявання цэнтра. Зусім нядаўна мы распачалі супрацоўніцтва і з Аршанскім цэнтрам. За апошні год агульны памер дапамогі склаў больш за 7700 бел. руб.

**Дапамога падчас эпідэміі.** Дапамагаць людзям у нялёгкіх жыццёвых сітуацыях – гэта адна з першасных задач "Карытас". Дзякуючы падтрымцы замежных партнёраў і ахвяраванням людзей добрай волі вясной 2020 года "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі ўключыўся ў барацьбу з пандэміяй, перадаючы медыцынскае абсталяванне, сродкі індывідуальнай абароны і прадукты харчавання медыцынскім, сацыяльным установам і асобам у патрэбе. Падобныя праекты і далей застаюцца ў прыярытэце "Карытас".

**Дапамога дзецям разам з "Карытас Прага".** Дзеці са шматдзетных, малазабяспечаных сем'яў, сем'яў, у якіх ёсць людзі з інваліднасцю з розных раёнаў Віцебскай вобласці два разы на год атрымліваюць фінансавую дапамогу для набыцця адзення, абутку, школьных прыладаў ці аплаты навучання ад дабрачынцаў "Карытас Прага". Акрамя таго, для дзяцей арганізоўваюцца экскурсіі і святочныя мерапрыемствы. У 2020 годзе да праекту далучылася 112 новых сем'яў.

**Інтэграцыйныя святліцы для дзяцей.** Пры парафіях нашай дыяцэзіі дзейнічае сем святліц для дзяцей, якімі апякуецца "Карытас". Пяць з іх – у Мёрах, Лепелі, Віцебску, Браславе і Глыбокім – былі ўтвораныя пры падтрымцы "Карытас Польшча" і праграмы "Польская дапамога" Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча. Іншыя дзве святліцы дзейнічаюць пры парафіяльных "Карытас" у Лынтупах і Паставах (парафія Езуса Міласэрнага). У святліцах адбываюцца заняткі па катэхезе, кулінарыі, творчыя майстэрні. Дзеці і моладзь разам з выхавальнікамі рыхтуюць хатнія заданні, гуляюць, ладзяць святы. Дзякуючы "Карытас Лінц" у 2020 годзе мы закупілі прадукты харчавання на суму 11 788 руб. для кулінарных гурткоў і калядныя падарункі для наведвальнікаў святліц на суму 14750 руб. У найбліжэйшы час плануецца забяспечыць святліцы супрацьэпідэмічнымі сродкамі і тэхнічным абсталяваннем для анлайн-заняткаў.

⇒



Наборы прадуктаў харчавання для патрабуючых


Сустрэча ў Віцебскім цэнтры для людзей з інваліднасцю

# дзень "Карытас"






Падчас Конкурсу на веданне Святога Пісання -2020

⇒

**Дапамога дзецям з каталіцкіх парафій Віцебскай дыяцэзіі.** За апошні год "Карытас" закупіў і перадаў парафіям канцылярскія прылады, заплечнікі і дзіцячае адзенне для катэхезы і для школы на суму 10109,74 бел. руб. На Святы Божага Нараджэння 2020/21 дзеці атрымалі падарункі на суму 6080 бел. руб.

**Дыяцэзіяльны конкурс на веданне Святога Пісання** сёлета адбудзецца ўжо трэці раз. Пры гэтым яго геаграфія пашыраецца: у конкурсе возьмуць удзел таксама ахвотныя з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Дзеці ва ўзросце да 14 гадоў уключна пакажуць свае веды па змесце Евангелля паводле Святога Мацвея і Кнігі Тобія. Арганізацыя конкурса, падрыхтоўка заданняў і ўзнагародаў з'яўляецца ініцыятывай "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі. Першы этап конкурсу запланаваны на 20 сакавіка.

**Дапамога дзяржаўным сацыяльным установам Віцебскай вобласці.**

- ТЦСАН Віцебскага раёна з дапамогай "Карытас" закупіў абсталяванне і матэрыялы для тэатральнага гуртка, правядзення святаў. (18374 бел. руб.);
- Сялюцкі псіханеўралагічны дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў і Віцебскі дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў атрымалі сродкі індывідуальнай абароны і дэзынфекцыі (4400 бел. руб.);
- Псіхіятрычная бальніца ў Слабодцы (Браслаўскі раён) атрымала аднаразовыя нестэрыльныя халаты, шчыткі для твару, медыцынскія пальчаткі, бактэрыцыдны апрамяняльнік;
- Воронаўскі дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў атрымаў ахоўныя камбінезоны і бактэрыцыдныя апрамяняльнікі;
- Бактэрыцыдныя апрамяняльнікі таксама былі перададзеныя Віцебскаму абласному клінічнаму анкалагічнаму дыспансеру.

**Міжнародны дабрачынны праект YES! (Youth Empowerment and Strengthening) – "Скарачэнне беднасці праз працаўладкаваннесацыяльна неабароненай моладзі ў менш развітых рэгіёнах Беларусі"** рэалізуецца "Карытас Беларусь" па ўсёй рэспубліцы пры падтрымцы "Renovabis" (Германія) і "Caritas Linz" (Аўстрыя). У Віцебскай вобласці праект рэалізоўваецца сумесна з "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі на тэрыторыі Мёрскага раёна. Галоўная мэта праекта – скіраваць намаганні моладзі на працаўладкаванне, на рэалізацыю ўласных бізнес-ідэй, павышэнне ўзроўню якасці жыццядзейнасці ў сельскай мясцовасці. У межах праекта ў горадзе Мёры адкрыты "Цэнтр рэгіянальнага развіцця сацыяльна арыентаванага мясцовага прадпрымальніцтва", які стане прасторай для кансультацый і супрацоўніцтва для моладзі ў галіне самазанятасці. Спецыяльна падрыхтаваныя спецыялісты шырокага профілю змогуць правесці кансультацыі, даць парады, дапамагчы з афармленнем дакументацыі. Плануецца прыцягнуць да праекта 300 маладых людзей з сельскіх раёнаў Віцебскай вобласці, якія пройдуць бясплатнае навучанне па адукацыйных праграмах. Праект будзе працягвацца на Мёршчыне да канца 2022 года.

Акрамя галоўнай сядзібы "Карытас" у Віцебску, пры 8 парафіях Віцебскай дыяцэзіі існуюць **парафіяльныя арганізацыі "Карытас"**: Святой Тройцы ў Глыбокім, Св. Андрэя ў Лынтупах, Св. Казіміра ў Лепелі, Перамянення Пана ў Чашніках, Сэрца Марыі ў Оршы, Унебаўшэсця НПМ у Мёрах, Нараджэння Маці Божай у Браславе, Езуса Міласэрнага ў Паставах.

**Валанцёрскі рух "Карытас Віцебск".** Дабрачынная праца не была б магчымая без валанцёраў. Гэта людзі рознага ўзросту, прафесіі і веравызнання, якія ахвяруюць свой час, здольнасці і адкрытае сэрца бліжнім. Нягледзячы на значныя абмежаванні дзейнасці ў сувязі з пандэміяй і ўведзенымі мерамі перасцярогі, валанцёры "Карытас" па меры магчымасці дапамагаюць у цэнтры для людзей з інваліднасцю, рэсурсным цэнтры, у святліцах для дзяцей, у офісе "Карытас". Ужо пачалася рэалізацыя велікапосных дабрачынных акцый.

**Мы ўдзячныя добраму Богу за чарговы год працы "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі**, за ахвярадаўцаў і валанцёраў, якія ў салідарнасці далучыліся да нашай дабрачыннай дзейнасці, і за тых людзей, якім Пан аказаў міласэрнасць праз нашыя рукі.

Запрашаем і далей сачыць за нашымі навінамі ў сацыяльных сетках:

**Instagram:** #caritasvitebsk
**Facebook:** https://www.facebook.com/caritas.vitebsk
**У Кантакце:** https://vk.com/caritas.vitebsk
а таксама на сайце
***caritas-vitebsk.by***

**Нашы каардынаты:**
вул. Чкалава 52 к. 1, п/с 6, г. Віцебск 210041,
**тэл.** +375 212 618822,
+375 29 8369993,
**e-mail:**
caritas.vitebsk@mail.ru




Сярод устаноў, якія атрымалі ахоўныя сродкі – Віцебская абласная клінічная бальніца хуткай дапамогі




Супрацаўнікі Карытас прывезлі дапамогу для Аршанскага цэнтра начнога знаходжання



Святліца для дзяцей у Паставах. Творчыя заняткі

# Каляндар на сакавік

**4 сакавіка – успамін святога Казіміра.**



Святы Казімір быў другім з шасцярых сыноў польскага караля Казіміра Ягелончыка. Ён нарадзіўся 3 кастрычніка 1458 г. у каралеўскім замку ў Кракаве. У 1476 г. яго першым выхавальцам і настаўнікам стаў знакаміты польскі гісторык і хранікёр Ян Длугаш. Бацькі св. Казіміра былі вельмі набожнымі людзьмі. Казімір рана пачаў удзельнічаць у палітычным жыцці, але разам з тым вылучаўся надзвычайнай набожнасцю. Ён штодзённа браў удзел у святой Імшы, шмат маліўся, здзяйсняў учынкі міласэрнасці. Святы памёр, хварэючы на сухоты, 4 сакавіка 1484 г. ва ўзросце 26 гадоў.

Іканаграфія найчасцей прадстаўляе св. Казіміра ў княжацкім адзенні з лілеяй у руках або як ён кленчыць уначы перад дзвярыма катэдры, каб прыгадаць яго захапленне і пашану да Найсвяцейшага Сакраманту.

У 1602 г. Папа Клімент VIII кананізаваў яго, а ў 1950 г. Папа Пій XII абвясціў апекуном літоўскай моладзі. У 1993 г. Ян Павел II сваёй булай устанавіў св. Казіміра адным з заступнікаў Гродзенскай дыяцэзіі. У Вільні, у катэдральным касцёле, знаходзяцца яго рэліквіі.

**9 сакавіка – успамін св. Францішкі Рымскай, законніцы.**



Святая Францішка нарадзілася ў 1384 г. у Рыме ў арыстакратычнай сям'і. У маладым узросце мела жаданне ўступіць у манастыр, аднак бацькі пастанавілі выдаць яе замуж. Выйшаўшы замуж, яна нарадзіла траіх дзяцей. Нягледзячы на тое, што Францішка паходзіла з заможнай сям'і, яна сама займалася выхаваннем сваіх дзяцей. Францішка клапацілася пра дом і сваю сям'ю, але таксама знаходзіла час на асабістую малітву і служэнне ўбогім. Яна праславілася сваёй дабрачыннасцю. Падтрымлівала касцёлы ў Рыме, дапамагаючы матэрыяльна, таксама пэўны час даглядала ў сваім доме хворых на чуму. Дамовіўшыся з мужам, яны разам склалі шлюб чысціні. Святая Францішка заснавала ў Рыме жаночую манаскую супольнасць бэнэдыктынак-аблатак, якія займаліся міласэрнасцю, а таксама жылі глыбокай малітвай і пакутай. Супольнасць была зацверджана Папам Марцінам V у 1433 годзе. Памерла святая 9 сакавіка 1440 г. ва ўзросце 56 гадоў. Яна была абдаравана нязвыклымі містычнымі дарамі: мела дар аздараўлення, а нават уваскрашэння памерлых, прароцкі дар, а таксама часта перажывала містычны экстаз, падчас якога мела духоўны кантакт са сваім Анёлам-Ахоўнікам. Да ліку святых далучана Папам Паўлам V у 1609 годзе. Святая Францішка Рымская лічыцца апякункаю жанчынаў.

У іканаграфіі св. Францішка часта прадстаўлена ў чорным хабіце і белым вэлоне ў суправаджэнні анёла. На некаторых абразах яе атрыбутам з'яўляюцца асёл – сімвал працавітасці, упартасці, цярплівасці – і адкрытая кніга.

**17 сакавіка – успамін св. Патрыка, біскупа.**



Будучы святы, апостал Ірландыі, нарадзіўся каля 385 – 390 гг. у рымскай Брытаніі. Шлях св. Патрыка да святасці і да Ірландыі быў нялёгкі. Сын рымскіх чыноўнікаў, якія служылі ў Шатландыі, ён у дзяцінстве быў выкрадзены ірландскімі піратамі і прададзены ў рабства. Працуючы пастухом у Ірландыі, шмат перадумаў і звярнуўся да рэлігіі. Нягледзячы на гады ў няволі, вельмі палюбіў Зялёны Востраў, яго жыхароў, вывучыў мясцовую мову. Ужо як свабодны чалавек, манах і святар Патрык марыў вярнуцца ў Ірландыю ў якасці місіянера. Касцельныя ўлады бачылі праўдзівую любоў Патрыка да ірландцаў і таму выслалі яго як місійнага біскупа на гэтыя тэрыторыі. Хронікі сведчаць, што Патрык ішоў заўсёды туды, дзе Евангелле яшчэ не абвяшчалася. Быў чалавекам надзвычайнай духоўнай упэўненасці і сілы. Ён засноўваў кляштары, касцёлы і школы, а каля 440 г. сярод аднаго з язычніцкіх плямёнаў арганізаваў першае біскупства. Дзейнасць святога выклікала моцнае супраціўленне з боку язычнікаў-друідаў, а таксама з боку некаторых рыцараў, якія займаліся разбоем на Зялёным Востраве.

У іканаграфіі св. Патрык часта намаляваны ў адзенні біскупа са змеямі пад нагамі або з канюшынай. Гэта звязана з легендамі, якія распавядаюць пра цуд выгнання змеяў з Зялёнага Вострава, і перакананнем, што св. Патрык ужываў лісточкі канюшыны, каб растлумачыць таямніцу Святой Тройцы. Дата смерці святога дакладна невядомая, як невядома і месца яго пахавання.

**19 сакавіка – урачыстасць святога Юзафа, абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі.**



Святы Юзаф – апякун Найсвяцейшай Панны Марыі і Езуса Хрыста на зямлі. Усе звесткі пра жыццё святога мы знаходзім у Евангеллі паводле Мацвея і паводле Лукі. Нягледзячы на тое, што іх зусім няшмат, менавіта Абраннік Найсвяцейшай Панны Марыі з'яўляецца адной з найбольш значных постацяў у хрысціянстве. Па прафесіі ён быў цесляром, жыў і працаваў у Назарэце і быў заручаны з Марыяй. Першым пра св. Юзафа пісаў св. Іеранім, Папа Леон XIII прысвяціў св. Юзафу энцыкліку, Пій X зацвердзіў Літанію да св. Юзафа, а Ян XXIII уключыў яго імя ў рымскі канон. Святы Ян Павел II выдаў пастарскі ліст "Redemptoris custos", у якім паказвае св. Юзафа як узор добрага мужчыны ў нашыя часы.

Дзень імянінаў усіх, хто мае імя Юзаф ці Юзэфа. Святы Юзаф з'яўляецца апекуном добрай смерці. У гэты дзень удзел у св. Імшы з'яўляецца абавязковым.

**25 сакавіка – урачыстасць Звеставання Пана.**



Дзень, у які Арханёл Габрыэль абвясціў дзяўчыне Марыі, што яна стане Маці Бога і што пад яе сэрцам з'явіўся Хрыстус. Ва Усходніх Цэрквах гэтае свята адзначалі ўжо ў V стагоддзі, а на Захадзе – з часоў пантыфікату Грыгорыя Вялікага (VII ст.).

У энцыкліцы "Evangelium vitae", абвешчанай 25 сакавіка 1995 г., Ян Павел II прапанаваў штогод у гэта свята адзначаць Дзень жыцця, каб звярнуць увагу грамадскасці на яго каштоўнасць. Для таго, каб кожная жанчына і ўсе людзі, нягледзячы ні на якія складанасці і праблемы, па прыкладзе Марыі заўсёды казалі "так" новаму жыццю з моманту зачацця.

У апошнія гады ў Беларусі пашыраецца добрая традыцыя духоўнага ўсынаўлення. Ва ўрачыстасць Звеставання Пана (а таксама і ў іншыя марыйныя святы) многія вернікі бяруць на сябе абавязак на працягу дзевяці месяцаў маліцца за дзіця, якому пагражае небяспека аборту.

**28 сакавіка – Пальмавая Нядзеля або Нядзеля Мукі Пана.**



У гэты дзень Касцёл успамінае ўваход Езуса Хрыста ў Ерусалім для здзяйснення Пасхальнай таямніцы. У знак ушанавання і памяці пра трыумф Езуса Хрыста пры ўваходзе ў горад Ерусалім асвячаюцца галінкі пальмы, вярбы, ядлоўцу, часта ўпрыгожаныя кветкамі і стужкамі. Пальма сімвалізуе жывую веру хрысціяніна, што ідзе за Хрыстом, Які перамог смерць. Гэтая дарога заўсёды вядзе да вечнай славы на нябёсах.

Несучы пальмы, вернікі прызнаюць у Езусе абяцанага Месію. Гэты жэст – відавочны знак адкрыцця сапраўднай ідэнтычнасці Езуса. Звычай асвячэння пальмаў з'явіўся ў Касцёле ў адзінаццатым стагоддзі.

## На сакавік прыпадаюць дні нараджэння і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**6 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Зэнон Шчонхар MS** *(Відзы)*;
**7 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*;
**8 сакавіка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*;
**17 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Уладзімір Грыгор'еў** *(Іспанія)*, **кс. Ігнат Санюта** *(Ірландыя)*;
**18 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Алег Буткевіч**;
**28 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Вячаслаў Пялінак** *(Пінская дыяцэзія)*;
**31 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Уладзіслаў Шарковіч** *(Глыбокае)*.

*Матэрыялы старонкі падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***

### Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення. Малітва – набажэнства, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова. Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298

### Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Анiскевiч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

# Темперамент нельзя воспитать

## Родителям о детском темпераменте

**Все дети очень разные. Кого-то можно отнести к группе "весельчаков", кого-то к вечным "капризулям". Есть дети как "ураганы" – быстрые, молниеносные и те, кто как будто "замирает во времени".**

**Марина Ткач**, *психолог*



Многие ошибки в воспитании детей происходят из-за того, что родители начинают расценивать подобные виды поведения ребёнка как желание разозлить и вывести из себя взрослых или как момент непослушания. Безусловно, в поведении детей могут быть моменты непослушания или капризы. На это у ребёнка влияет множество факторов, и одним из них выступает темперамент. Именно о нём и пойдет речь сегодня.

Темперамент – определённый набор психических и физиологических особенностей, которые определяют силу и скорость реакций ребёнка на те или иные жизненные события, степень внешних эмоциональных проявлений маленького человека. Темперамент, как и цвет глаз, например, даётся нам от момента рождения, его черты мы наследуем от родителей. В его основе лежат свойства нервной системы, а это говорит о том, что глобальным изменениям эта черта личности не подлежит.

Вам как родителям важно помнить, что темперамент нельзя воспитать и изменить на более удобный. Задача родителей в воспитании – научиться "сотрудничать" с темпераментом вашего ребёнка и научить этому его самого. Это достаточно важный момент, так как слабые стороны темперамента со временем можно превратить в достоинства, а сильные сделать прочной основой для дальнейшей взрослой жизни.

Типы темперамента у детей подразделяют точно так же, как и у взрослых: на сангвиника, флегматика, меланхолика и холерика. С той лишь разницей, что проявления и реакции, связанные с темпераментом в детском возрасте, гораздо заметнее, чем у взрослого человека. Ведь взрослые могут контролировать силу и проявление эмоций и, соответственно, своё поведение. Именно по этой причине характерные черты темперамента не так очевидны, как у детей.

Отмечу, что в так называемом "чистом" виде определённый тип (т.е. когда ребёнку свойственны черты только одного какого-либо типа темперамента) встречается редко. Чаще всего можно наблюдать сочетание нескольких типов, но при этом будет прослеживаться доминирование каких-либо характерных черт одного из них.

> **"темперамент нельзя воспитать и изменить на более удобный"**

Давайте рассмотрим краткую психологическую характеристику детей с разным типом темперамента.

**Ребёнок-сангвиник** – дружелюбный, общительный и жизнерадостный. Он достаточно покладист и рассудителен, разговорчив, любит всё новое: это могут быть новые люди, места (при этом легко приспосабливается к новой обстановке), впечатления. Ребёнок-сангвиник охотно идёт на компромисс, не боится трудностей и легко переживает случающиеся неудачи. Такой ребёнок любознателен и легко усваивает новую информацию, любит задавать много вопросов, часто не дожидаясь ответов на них. Быстро переключается с одного дела на другое, поэтому может выполнять несколько действий одновременно. Ребёнок активен, подвижен, любит шумные игры, для которых обязательно ищет партнёра – играть в одиночку для сангвиника немыслимо. Если партнёра для игры найти не удаётся, эту роль будут выполнять игрушки, с которыми будет вестись диалог. Ребёнок с таким темпераментом не злопамятен и не конфликтен, поэтому с ним сложно поссориться.

**Слабая сторона сангвиника.** Такие дети склонны проявлять поверхностность. Они могут схватить игрушку, тут же бросить и уже тянуться за другой. При просмотре книги перелистывают страницы одну за другой, не задерживая внимания на картинках. Сангвинику комфортно лишь в том случае, если он нравиться всем.

**Ребёнок-холерик.** Фраза "Покой нам только сниться" как раз про ребёнка-холерика. Он часто приносит родителям всевозможные хлопоты, так как непоседлив, шаловлив, шумный и несдержанный, суетливый и непослушный, вспыльчивый и драчливый. Такие дети любят активные и шумные игры, охотно идут на риск. Речь холерика отрывиста, быстра с проглатыванием отдельных слов, но в тоже время очень выразительна и эмоциональна. По натуре ребёнок-холерик командир, легко адаптируется к непривычной обстановке.



**Слабая сторона холерика.** Дети с таким темпераментом подвержены частой смене настроения даже по незначительным причинам. Новая информация усваивается достаточно быстро, но через несколько минут "вылетает" из головы. Такие дети не умеют ждать и подавлять свои желания. Чаще всего невнимательны, им не хватает рассудительности. Они вспыльчивы, из-за чего происходят частые конфликты со сверстниками. Склонны к игре на публику, постоянно нуждаются в зрителях, от которых ждут одобрения. Например, истерика в магазине – это может быть вполне ожидаемая форма поведения, так как холерик никогда не будет плакать или капризничать в одиночестве. Наблюдаются проблемы с засыпанием (заснуть быстро мешают впечатления прошедшего дня).

**Ребёнок-меланхолик** – это мягкий и послушный ребенок. Он застенчив, робок, нерешителен, расстраивается из-за любой мелочи, тяжело переносит смену мест, новую обстановку, людей рядом, болезненно реагирует на отрицательные оценки, наказание – это целая трагедия. Такие дети часто волнуются по пустякам, поскольку способны зацикливаться на мелочах. Они не могут долго удерживать внимание на предметах, часто отвлекаются и не могут сосредоточиться на главном. Любая деятельность, в том числе и игра, для них работа, от которой они быстро устают. Забиться в укромный уголок и рассматривать картинки или рисовать – это одни из лучших занятий меланхолика. Настроение изменчиво.

Вышеописанные проявления темперамента не стоит расценивать как каприз. Это объясняется, в первую очередь, функционированием нервной системы, а именно преобладанием торможения над реактивностью. По этой причине ребёнок нуждается в более длительном периоде адаптации при смене видов деятельности.

У данного типа темперамента, безусловно, есть и свои достоинства. Такие дети часто проявляют способности к творческой деятельности. Любят петь и танцевать. Они могут скрупулезно разобраться в вопросе, который их заинтересовал, например, как устроена машина, почему идёт дождь и так далее. Также обладают рядом нравственных качеств и отличаются высокой чувствительностью к социальным нормам.

**Ребенок-флегматик.** Дети с преобладанием флегматичности отличаются медлительностью. Для них очень важен чёткий распорядок, когда всё происходит в привычном и спокойном режиме. Они всегда невозмутимы и спокойны. У них замедленное, но сильное реагирование на внешние события. Ко всему подходят обстоятельно, новая информация усваивается медленно, но прочно закрепляется в памяти ребёнка. Они настойчивы в достижении цели, могут с завидным упорством отстаивать свои решения. Не по возрасту миролюбивы, максимально уходят от конфликтных ситуаций.

**Слабая сторона флегматика.** Из-за низкой скорости протекания нервных процессов детям-флегматикам нужно много времени для усвоения любой новой информации. В целом медлительность, свойственная флегматикам, вызывает раздражение многих окружающих. Ребёнок-флегматик может быть настолько погружен в свои мысли или занятие, что не услышит с первого раза обращения к себе.

Надеюсь, что знания об особенностях темперамента у детей помогут вам выстроить индивидуальный стиль воспитания, который будет удобен как для вашего ребёнка, так и для вас, родителей.

Успехов!



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Сардэчна віншуем **ксяндза Рамана Мурзіча** з днём імянінаў (28 лютага).*

*Шаноўны ксёндз Раман! Нізка кланяемся і кажам вялікі дзякуй за Вашу працу па адраджэнні духоўнага жыцця ў нашай парафіі, за ласку і дабрыню, за навучанне любіць Бога і бліжняга! Жадаем Вам моцнага здароўя, радасці, добрых людзей на Вашым шляху, апекі Маці Божай і дароў Духа Святога!*

*Няхай Усемагутны Бог і Ваш Анёл-Ахоўнік заўсёды берагуць Вас, падтрымліваюць ва ўсіх Вашых планах на карысць Каталіцкага Касцёла і людзей!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве***

## Хвала Хрысту!



*З нагоды дня імянінаў (26 лютага) сардэчна віншуем нашага паважанага **біскупа Алега Буткевіча**!*

*Прыміце, Ваша Эксцэленцыя, нашы віншаванні і шчырыя пажаданні: апекі Маці Божай, ласкаў Пана, плёну на Божай ніве, узрастання веры, моцнага здароўя і аптымізму! Дзякуем Вам за цудоўныя казанні, за шчырасць і адданасць нашаму беларускаму Касцёлу і народу, за цярпенне і вытрымку ў няпростых жыццёвых сітуацыях, за добрае сэрца і прыветлівую ўсмешку!*

***З любоўю, павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах***

## Хвала Хрысту!



*Дарагому **ксяндзу Андрэю Таўруку** з нагоды дня святарскага пасвячэння (12 студзеня) дасылаем нашы шчырыя віншаванні і сардэчныя пажаданні:*

***Вам, ойчанька, шчыра жадаем***
***Здароўя, любові, натхнення!***
***Да Бога малітвы свае пасылаем***
***І просім для Вас узмацнення.***



***Каб крыж, што Вам дадзены Богам,***
***Не быў для Вас цяжкі ніколі.***
***А розныя весткі, якіх шмат у свеце,***
***Не ранілі сэрца ніколі.***

***Хай сонейка Вас сагравае,***
***Хай ветрык пяшчотны лагодзіць.***
***Ахоўнік-анёл хай над Вамі чувае,***
***А Божая ласка з нябёсаў сыходзіць!***

***Удзячныя вернікі парафіі св. Язафата Кунцэвіча ў Канстанцінаве***

## Шчыра віншуем!



*Шаноўны **ксёндз-пробашч Вадзім**! Шчыра віншуем Вас з днём нараджэння (18 лютага)!*

*Мы ўдзячныя Вам, шаноўны ксёндз Вадзім, за прамоўленае Божае слова, за казанні, поўныя спачування, любові і міласэрнасці да людзей, за службу ў канфесіянале, за Вашу глыбокую веру, за нястомную працу на карысць Касцёла, за аптымізм і ўвагу да кожнага з нас!*

*Жадаем Вам духоўных і фізічных сіл для далейшага служэння, моцнага здароўя, шчодрай Божай дапамогі і ажыццяўлення душпастырскіх планаў!*

*Няхай Святы Дух атуляе сваім святлом кожны дзень Вашага святарскага служэння, а Маці Божая абараняе ад небяспекі і атуляе бясконцай любоўю!*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, парафіяне касцёла Святога Антонія ў Паставах***

# 7 советов от Папы Франциска на Великий пост

**В Послании на Великий пост 2021 Святейший Отец призывает всех верных использовать это благодатное время, чтобы обновить нашу веру, надежду и любовь. Мы выбрали семь важных советов из этого документа, чтобы помочь нашим читателям подготовиться к 40-дневному посту.**

■ **Анастасия Бозио**, *рускатолик.рф*

### 1. Использовать пост, молитву и милостыню по назначению

Все мы знаем эти три инструмента, которые Церковь предлагает нам в помощь в период Великого поста. Однако порой мы забываем, каково их истинное назначение и превращаем их в критерии для соревнования с самими собой, делая время поста своеобразным марафоном самосовершенствования. “Путь бедности и отречения (пост), взгляд и действия любви по отношению к раненому человеку (милостыня) и сыновний разговор с Отцом (молитва) позволяют нам сделать нашу веру искренней, надежду — живой, любовь — действенной”, — напоминает нам Папа в самом начале Послания. Будем помнить об этом, чтобы Великий пост не превратился в борьбу за красоту, за улучшение общего физического состояния или “позитивное мышление”.

### 2. Принять и жить Истиной

“Эта Истина – Сам Христос, Который, принимая на Себя человечество до самой его глубины, соделался Путем – трудным, но открытым для всех, – ведущим к полноте Жизни”, — говорит Понтифик. Через опыт отречения он призывает нас открыть жизнь как Божий дар и ответить любовью на Его любовь, в том числе — отдавая любовь нашим ближним. Принимать любовь и разделять её с другими — вот что отличает человека, по-настоящему встретившего Христа. Великий пост — отличное время, чтобы вернуться к этой встрече, идти этим Путём, жить этой Истиной.

### 3. Освободить наше существование от того, что его загромождает

Как много вещей отвлекают нас от Христа в повседневной жизни! Они занимают не только наше время, но и наш разум, наше сердце. В их числе Папа Франциск называет “пресыщенность информацией – правдивой или ложной” и “предметы потребления”. И действительно, как часто мы поступаем с информацией безнравственно, превращая её в предмет всевозможных спекуляций, манипуляции, разжигания ненависти, дискриминации конкретного человека или целых групп. И как часто предметы потребления становятся поводом для зависти, вождевления, неразумного использования денег, которое может повлечь за собой целый спектр последствий для нас и наших ближних. Святейший Отец призывает нас освободиться от власти того и другого, “чтобы открыть двери нашего сердца Тому, Кто приходит к нам бедным во всем, но “исполненным благодати и истины” (Ин 1, 14)”.

### 4. Исполниться надеждой

Папа Римский и сам замечает, что разговор о надежде сегодня, когда весь мир переживает крайнюю озабоченность и нестабильность сразу в стольких сферах нашей жизни, может казаться провокацией. Но мы, христиане, призваны жить надеждой. И Великий пост — это возможность вновь открыть, в чём она состоит и где её источник. “Надеяться вместе с Ним и благодаря Ему значит верить, что история не заканчивается нашими ошибками, нашим насилием и несправедливостью, нашим грехом, распинающим Любовь. Надеяться – значит черпать прощение Отца из открытого Сердца Иисуса”, — пишет Папа. Используем время поста для примирения с Богом и с самим собой, чтобы наши сердца исполнились надеждой и чтобы мы могли быть свидетелями надежды для других.

### 5. Способствовать братству

Папа напоминает нам о том, что именно опыт прощения позволяет нам прощать других, быть открытыми к диалогу, внимательными к чувствам ближнего, и даже приносить утешение страдающим: “Прощение Божие, действующее и через наши слова и дела, позволяет нам пережить Пасху братства”. Как важно вспомнить об этом в период поста! Ведь спасение — это дар Бога не только нам, но всему человечеству. И мы, живя спасением уже сейчас, призваны создавать глубоко человечные и подлинно братские узы уже на этой земле, таким образом свидетельствуя о любви и милосердии нашего общего Отца. Папа Франциск предлагает нам делать это посредством самых простых жестов: обращать к другим “слова ободрения, утешающие, дающие силы, успокаивающие, поощряющие, а не слова, которые унижают, огорчают, раздражают, обесценивают” (ср. FT, 223), “проявить интерес, подарить улыбку, сказать ободряющее слово и выслушать” (там же, 224).

### 6. Любить деятельно

Целый пункт Послания Святейший Отец посвящает любви, понимаемой как “стремление сердца, которое позволяет нам выйти из самих себя и порождает узы общения и готовности делиться”. Понтифик призывает строить цивилизацию любви, где каждый страдающий и отверженный становится для нас братом, с которым мы готовы поделиться тем, что имеем, с простотой и радостью. Сегодня такими страдающими и отверженными, нуждающимися в нашей любви, становятся не только больные, бездомные, узники, но и те ближние, страданий которых мы можем даже не замечать: “переживать Великий пост в любви означает заботится о находящихся в страданиях, одиночестве или тревоге из-за пандемии COVID-19”, — уточняет Папа.



### 7. Ни терять ни минуты

В завершение Послания Святейший Отец деликатно и нежно напоминает нам, что “каждый шаг жизни является временем веры, надежды и любви”, а значит, нам не нужно ждать каких-то особых обстоятельств для того, чтобы делиться любовью, свительствовать о надежде и возрастать в вере. Нам не нужны титанические постановления на Великий пост, а нужно делать маленькие повседневные дела с великой любовью и помнить, кто даёт нам новый день, эти дела, ближних и дальних, нуждающихся в свидетельстве нашей веры. Если в этот пост мы сможем жить таким образом, это будет подлинным обращением нашего сердца и обновлением веры, надежды и любви для всего мира.

# Навошта святар падчас Імшы кладзе фрагмент гостыі ў келіх?

**Падчас гэтага рытуалу не прамаўляюцца словы ўслых, яго лёгка прапусціць, таму што ён трывае некалькі секунд. Аднак гэты жэст надзвычай сімвалічны.**



### Фрагмент гостыі ў келіху

Падчас Імшы, якая цэлебруецца ў рымскім абрадзе Каталіцкага Касцёла, святар адломвае невялікую частку кансэкраванай гостыі і змяшчае яе ў келіх з кансэкраваным вінам. Пры гэтым словы не прамаўляюцца ўслых, рытуал лёгка прапусціць, таму што ён вельмі хутка адбываецца. Аднак гэты жэст надзвычай сімвалічны.

Паводле Мікалая Гіра, аўтара кнігі "The Holy Sacrifice of the Mass" ("Найсвяцейшая Эўхарыстычная Ахвяра"), звычай дадаваць невялікую частку гостыі ў келіх каранямі сягае ў гісторыю ранняга Касцёла. Гэта павінна было азначаць **адзінства з Папам Рымскім і мясцовым біскупам.**

Удзел у той самай Найсвяцейшай Ахвяры лічыўся сімвалам і абавязкам касцельных зносін. Каб падтрымаць гэта, **Папы Рымскія і біскупы дасылалі іншым біскупам і святарам часткі кансэкраваных гостый, якія атрымальнікі кідалі ў келіх і спажывалі.** Такі звычай захоўваўся ў Рыме прыблізна да IX ст. У нядзелю і святочныя дні Пантыфік пасылаў святарам, адказным за цэлебрацыю Найсвяцейшай Ахвяры ў мясцовых касцёлах, гостыі **як сімвалам зносін з Кіраўніком Касцёла і знак іх улады цэлебраваць Найсвяцейшую Ахвяру**.

Кансэкраваная гостыя была бачным і канкрэтным напамінам пра зносіны з Папам і біскупамі падчас цэлебрацыі кожнай святой Імшы.

### Адна ахвяра

Іншым сімвалічным значэннем гэтага рытуалу быў **напамін пра адзінства цэлебрацыі святой Імшы**, якая з'яўляецца памяццю той самай, **адной ахвяры**, якую Езус склаў на крыжы. Католікі вызнаюць, што Езус не складае чарговую ахвяру на кожнай Імшы, але **Эўхарыстыя – гэта містычны ўдзел у той адной, адзінай ахвяры, якая адбылася на Галгофе**.

Раней гостыі ўжывалі інакш. Паколькі яны былі значна большымі, чым цяпер, іх падзялялі на тры часткі, размяркоўвалі паміж удзельнікамі Эўхарыстыі, адпраўлялі тым, хто адсутнічаў **і клалі ў келіх падчас цэлебрацыі Найсвяцейшай Ахвяры**. (...) Раней кансэкраваная частка Цела Пана захоўвалася і далучалася да Найсвяцейшай Крыві падчас наступнай святой Імшы, верагодна, як сімвал нястомнай пераемнасці Ахвяры Хрыста і **адзінства паміж апошняй і цяперашняй цэлебрацыямі Эўхарыстыі**.

На падставе прыведзеных вышэй прычынаў гісторыкі мяркуюць, што на працягу некалькіх стагоддзяў у келіху знаходзіліся **дзве часткі гостыі**: адна ад Папы Рымскага альбо біскупа, а другая заставалася ад папярэдняй Эўхарыстыі.

Сімвалізм учынку таксама паказвае на адзінства Цела і Крыві Езуса ў гостыі, бо і гостыя, і кансэкраванае віно ўтрымліваюць у сабе **ўсю** прысутнасць Езуса, Яго цела, кроў, душу і боскасць.

Рытуал цэлебрацыі нагадвае, што кожнае дзеянне святара падчас святой Імшы сыходзіць каранямі ў амаль двухтысячагадовую гісторыю і традыцыі. Ён вельмі прадуманы і накіраваны на тое, каб перадаць шмат глыбокіх духоўных ісцін.

*Пераклад*
***Марыны Сінкевіч***
*Па матэрыялах*
*pl.aleteia.org*

# У Віцебскай дыяцэзіі выйшла кніга "In Sinu Jesu" – малітоўны дзённік святара

**"In Sinu Jesu" – гэта малітоўны дзённік ірландскага святара, які перажыў асабістую сустрэчу з Хрыстом і дзеліцца ў гэтай кнізе сваімі перажываннямі і словамі Хрыста, пачутымі падчас малітвы.**

Як Бог звяртаецца да чалавека – гэта вялікая таямніца. Вядома, што лепш за ўсё Ягоны лагодны голас, напоўнены айцоўскай і сяброўскай любоўю, можна пачуць у цішыні. І менавіта цішыні гэты свет найбольш баіцца. Бог прамаўляе асцярожна, ад сэрца да сэрца. Кніга "In Sinu Jesu" – плён такіх адносін. Адзін бэнэдыктынскі манах чуў Яго голас падчас малітваў і адарацый і запісаў на бумазе. Да сённяшняга часу гэты дзённік аказаў уплыў на мноства людзей, даў падтрымку і надзею ў цяжкіх сітуацыях, умацаваў у пытаннях веры і навучанні Касцёла, у разуменні сакрамантаў і літургіі, стаў правадніком у духоўным жыцці. Кляштар манахаў стаў месцам, куды прыязджаюць святары ў крызісе ці з намерам адыходу, і тут нанова адкрываюць для сябе дар святарства.

Змест кнігі цалкам згодны з пісаннем і традыцыяй Касцёла. Але самае галоўнае – гэты дзённік у цішыні і адарацыі крок за крокам вучыць вельмі блізкім адносінам з Панам, якія меў апостал Ян, што спачываў in sinu Jesu (Ян 13,23), значыць, каля грудзей, каля сэрца Езуса. Гэта і з'яўляецца шляхам аднаўлення духоўнага жыцця, Касцёла і, асаблівым чынам, святарства.

Такім чынам, чытачу асабліва карысным будзе малітоўнае чытанне, дзе кожнае слова можна ўспрымаць як асабісты зварот Езуса альбо Маці Божай. На старонках кнігі Езус звяртаецца, канешне ж, у першую чаргу да святароў. Сакрамант святарства, па Яго словах, можна параўнаць са шлюбнымі адносінамі ў нябесным вымярэнні. І яны найбольш квітнеюць, калі ёсць шмат часу з жаніхом – з Хрыстом. Але і кожны свецкі пры хросце становіцца часткай агульнага святарства Хрыста, таму словы кнігі будуць актуальнымі і для свецкіх.

Кніга можа стаць асабістым малітоўным дзённікам чытача. На кожнай старонцы ёсць некалькі радкоў для прыватных запісаў. Бо малітва – гэта дыялог, дзе трэба вельмі шмат слухаць і потым адказваць.

**Дзе набыць кнігу?**

- праз інтэрнэт-сайт chitatel.by;
- у Акадэмкнізе;
- у Чырвоным касцёле;
- складсці замову ў рэдакцыі "Каталіцкага Весніка" праз электронную пошту katalickivesnik@gmail.com зназнакай: In Sinu Jesu, ці па тэлефоне: +37529 736-53-07 (з 10.00 да 17.00, акрамя суботы і нядзелі). Кніга будзе высылацца Белпоштай накладзеным плацяжом.

**УВАГА!** Кошт кнігі – 23 рублі + кошты па перасылцы, якія аплочвае замоўца.




## Папа Францішак павіншаваў заручаных і закаханых

**Святы Айцец нагадаў вернікам, што 14 лютага ў Каталіцкім Касцёле адзначаецца літургічны ўспамін святых Кірыла і Мятода, апекуноў Еўропы, а таксама св. Валянціна.**

"Усвята святых Кірыла і Мятода, евангелізатараў славянскіх народаў, абвешчаных св. Янам Паўлам ІІ, апекунамі Еўропы, з любоўю вітаю ўсе супольнасці, якія пражываюць на тэрыторыях, евангелізаваных святымі братамі. Няхай іх заступніцтва дапаможа знайсці новыя шляхі для перадачы Евангелля, а таксама ўмацуе ў хрысціянскіх Цэрквах жаданне крочыць да поўнай еднасці з павагай да адметнасцяў", – сказаў Пантыфік пасля малітвы "Анёл Панскі" ў Ватыкане.

Спасылаючыся на ўспамін св. Валянціна, Папа Францішак скіраваў свае думкі і віншаванні ўсім заручаным і закаханым, а таксама запэўніў іх у сваёй малітве і благаслаўленні.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**

**7 сакавіка 2021г.,**
**III Нядзеля Вялікага посту**
**Ян 2, 13-25**

Ерусалімская святыня была для яўрэйскага народа нечым выключным і святым. Кожны ізраільцянін мужчынскага полу меў абавязак адбыць паломніцтва туды з нагоды свята Пасхі. Езус, каторы прыйшоў у гэты свет не для таго, каб адмяніць Закон, а каб выканаць яго, таксама прыходзіць, як і тысячы іншых пілігрымаў, у святыню. Аднак Яго рэакцыя на ўбачанае там вельмі суровая. Ён выганяе гандляроў са святыні.

Адкуль наогул там з'явіліся ўсе гэтыя мянялы і прадаўцы жывёл? Справа ў тым, што пакланенне Адзінаму Богу Ізраэля павінна было адбывацца праз ахвярапрынашэнне. Пасха – гэта свята, якое нагадвае пра цудоўны пераход выбранага народа праз Чырвонае мора. Адным з элементаў святкавання гэтага дня было спажыванне мяса ахвярнага ягняці. Святар забіваў прынесенае пілігрымам ягнятка, праводзячы абрад ахвярапрынашэння. Забітую жывёлу вярталі паломніку, каб той мог з'есці з сям'ёй рытуальную вячэру. Мянялы мелі попыт у святыні, таму што тысячы пілігрымаў прыходзілі ў Ерусалім з розных канцоў свету, несучы з сабой манеты з выявамі розных уладароў і каралёў. Такія манеты не прымаліся ў храме. Таму іх неабходна было памяняць на патрэбныя, чым і займаліся мянялы.

Яўрэі не разумеюць словаў Хрыста пра адбудаваную за тры дні святыню. Яны яшчэ добра памятаюць, з якімі вялікімі намаганнямі праходзіла адбудова каменнага храма. Яна пачалася ўсяго толькі ў 19 годзе да Нараджэння Хрыста пры каралю Ірадзе Вялікім. А некаторыя элементы ўсцяж дабудоўваліся нават у 70 годзе, калі храм быў татальна знішчаны. Езус насамрэч гаварыў пра святыню свайго Цела. Сёння няма таго прыгожага ерусалімскага храма. Але ёсць нешта большае і велічнае: Сакрамант Цела і Крыві Хрыста! Святая Эўхарыстыя адпраўляецца на ўсіх кантынентах зямлі. Сам Бог прысутны сярод нас. Гэта вялікі дар для ўсяго чалавецтва.

**14 сакавіка 2021г.,**
**IV Нядзеля Вялікага посту**
**Ян 3, 14-21**

Евангелле ўказвае нам на Хрыста як на адзінага Збаўцу. Збаўленне чалавецтва адбылося на крыжы. На ім быў узвышаны Збаўца за грахі ўсяго чалавецтва. Езус пераконвае Нікадэма, што Бог не з'яўляецца помслівым суддзёй. Ён не жадае смерці для чалавека, таму што Сам з'яўляецца Жыццём. Аднак перад праўдай Божага аб'яўлення нельга быць нейтральным. Неабходна зрабіць выбар або на карысць святла, або на карысць цемры. Бог дае нам неабходныя сілы, каб не памыліцца ў гэтым выбары. Святы Бернард з Клерво сказаў: Пагадзіцца – гэта значыць быць збаўленым. Нам усяго толькі трэба прыняць Божую волю аб збаўленні. Маральны выбар тут неабходны.

Чаму многія людзі ўсётакі выбіраюць цемру замест святла? Езус тлумачыць гэта іх прывязанасцю да граху. Святло рассейвае цемру, яно дае магчымасць самому і іншым заўважыць усю праўду. Святы Аўгусцін сказаў, што людзі любяць праўду за тое святло, якое яно пралівае, але ненавідзяць яго, калі яно выяўляе, у чым яны не мелі рацыі. Езус гаворыць нам у Евангеллі: хто паступае па праўдзе, ідзе да святла, каб яўнымі былі ўчынкі ягоныя, бо яны здзейсненыя ў Богу. Асабліва ў Вялікім посце трэба даць магчымасць Божаму святлу асвятліць нашае жыццё. Каб вера нашая стала больш глыбокай, бо ў ёй – крыніца нашага збаўлення.



**21 сакавіка 2021г.,**
**V Нядзеля Вялікага посту**
**Ян 12, 20-33**

З Евангелля мы даведваемся, што некаторыя грэкі прыйшлі і хацелі ўбачыць Езуса. Магчыма, яны былі патэнцыйнымі канвертытамі – тымі, хто збіраўся прыняць юдаізм, – таму і захацелі наведаць Ерусалім на свята Пасхі. У адказ на гэта Езус кажа: настала гадзіна ўслаўлення Сыну Чалавечаму. Чаму Езус такую вагу прывязвае да з'яўлення на яго шляху людзей-неяўрэяў? Справа ў тым, што прыход Месіі ў свет звязаны са збаўленнем усіх народаў. І Езус хоць і належыць паводле цела да ізраільскага народа, Ён з'яўляецца Збаўцам усіх людзей. Яго місія не была абмежаваная толькі ізраільцянамі. Мы добра памятаем Яго размову з жанчынай-самаранкай ля студні і вызваленне ад уплыву д'ябла апантанай дачкі жанчыны-сірафінікіянкі.

Езус у Евангеллі нагадвае нам пра самаахвярнасць. Пшанічнае зерне, каб даць плён, мусіць быць укінутае ў зямлю і памерці. Няма іншага шляху, каб з'явіўся хлеб на стале. Езус часта ўжывае вобраз зярнятка, каб перадаць нам важнае пасланне. У гэтым кантэксце зярнятка – гэта Ён Сам, Збаўца, Які будзе ўзняты высока на крыжы, памрэ, будзе пахаваны і ўваскрэсне. Калі хто служыць Мне, няхай ідзе Маім шляхам; і дзе Я, там будзе і слуга Мой. Калі мы хочам паспрабаваць дасягнуць пэўнай дасканаласці, нам неабходна памятаць пра гэтыя словы Хрыста. Няма іншай дарогі да вечнага жыцця, да Нябеснага Валадарства, як толькі праз самаадрачэнне. Езус паказвае нам прыклад гэтага. Ён памёр, каб уваскрэснуць, і нас заклікае ісці следам за Ім.

**28 сакавіка 2021г.,**
**Пальмавая Нядзеля**
**Мк 14, 1-15, 47**

У Пальмавую Нядзелю ў касцёле чытаецца ўрывак пра ўрачысты ўезд Езуса Хрыста ў Ерусалім і пра Яго пакуты. Мука Пана нашага Езуса Хрыста адкрывае перад намі гісторыю не толькі аднаго Езуса, але і гісторыі іншых людзей, якія знайшліся на Яго шляху. Гэта і апостал Пётр, каторы не вытрымаў выпрабавання і адрокся ад Хрыста. Гэта і рымскія бязлітасныя жаўнеры, якія бічавалі Збаўцу. Гэта і Бараба, каторага Пілат адпусціў з вязніцы замест Хрыста, Якога асудзіў на пакуты і смерць. Дарэчы, імя "Бараба" азначае даслоўна сын бацькі. Парадаксальна, Божы Сын прымае асуджэнне, не будучы ні ў чым вінаватым. У той час, як іншы сын атрымлівае свабоду замест таго, каб несці адказнасць за свае ўчынкі.

Бог сам займае нашае месца. Ён церпіць за нас, дзеля нас і замест нас. Некаторыя задаюцца пытаннем: для чаго Бог захацеў, каб гісторыя нашага збаўлення прайшла менавіта такую кульмінацыю? Філосаф Сакрат памёр у спакоі, акружаны вучнямі, усходні мысліцель Буда – таксама. Чаму Езус перажыў такія пакуты: здраду, бічаванне, Крыжовы шлях і ўкрыжаванне? Смерць Хрыста паказвае нам усю драму грэхападзення чалавека, тую прорву, якая ўтварылася паміж Богам і людзьмі, калі яны далі згоду на грэх. Пачынаючы ад Адама і Евы, чалавецтва было б у вечным тупіку, калі б не Божае Слова, якое пасялілася паміж намі, стаўшы адным з нас, пражыўшы наш лёс і перамогшы цемру. У тым і заключаецца невераготная моц Хрыста, што Ён – не проста зямны настаўнік, філосаф і мысляр. Хрыстус – гэта і Бог і Чалавек. Таму Яго слова мае такую моц і актуальнасць па сённяшні дзень. Таму нашае збаўленне неадменнае і прасціраецца ў вечнасць.

Аднак дзе маё месца ва ўсёй гэтай гісторыі? Можа, я памыліўся ў сваім жыцці і не раз? Ці раскаяўся і стаў лепшым? Ці дазваляю Божай ласцы дзейнічаць у маім жыцці, каб збаўленне стала і маім удзелам? Я атрымаў у дар ад Бога свабодную волю. Што яна выбера, залежыць толькі ад мяне самога.

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Віктар Місевіч,***
*Віцебск*



Храм Ірада Вялікага ў Ерусаліме



Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

У Касцёле распачаўся перыяд Вялікага посту. Мы разам з Пазнавайкай прапануем табе прыгадаць апошнія падзеі з зямнога жыцця Езуса Хрыста, каб разам лепей падрыхтавацца да радаснага свята Яго ўваскрасення!

**1.** Калі па чарзе выпішаш усе літары з зялёных лісточкаў дрэва, зможаш прачытаць словы, якія чуем падчас абраду пасыпання галоваў попелам:



АДКАЗ: ____________

**2.** Калі правільна злучыш па кропках, убачыш які вянок усклалі на галаву Езуса жаўнеры.



**3.** Касцёл у гэты святы час заахвочвае да практыкавання добрых учынкаў, а менавіта:

1. ____________________
2. ____________________
3. ____________________

Правільны адказ даведаешся, калі разгадаеш рэбусы.



## 4. ВІКТАРЫНА

Выберы правільны адказ. Папрасі дарослых цябе праверыць!

1. Колькі дзён трывае перыяд Вялікага посту?
А) 33
Б) 40
В) 30

2. Як называецца дзень, які распачынае Вялікі пост?
А) Вялікая серада
Б) Крыжовая серада
В) Папяльцовая серада

3. У які дзень Езус спажыў з апосталамі Апошнюю вячэру?
А) Нядзеля
Б) Чацвер
В) Пятніца

4. Як называецца месца, дзе быў укрыжаваны Езус?
А) Гара Сінай
Б) Гара Галгофа
В) Гара Табор

АДКАЗ: 1. ________ 2. ________ 3. ________ 4. ________

Вялікі пост – як яго добра перажыць?




*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***



# Карнэт замест аргана

**У парафіі св. Падрэ Піа ў Лёзне няма арганіста. Але затое ёсць свой музыка на духавых інструментах.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

Знаёмцеся – спадар Ігар Лакотка. Кожную нядзелю ён прыязджае за 15 км на св. Імшу ў Лёзненскую парафію і акампанементам на карнэце дапамагае парафіянам вывучаць новыя і ўдасканальваць добра вядомыя спевы. Пробашч парафіі кс. Аляксей Ляшко гаворыць: “Спачатку я спытаўся ў спадара Ігара, ці мог бы ён іграць на Імшы на клавішным інструменце. Але яму зручней было на карнэце. Усё-такі ён выкладчык музычнай школы. Я вельмі рады, што сп. Ігар пагадзіўся іграць. Літургія з музычным суправаджэннем выглядае больш урачыстай”.

Пасля св. Імшы падыходжу да музыкі, каб паразмаўляць з ім пра музыку ў касцёле. Ён якраз абмяркоўвае з парафіянамі спевы на наступную нядзелю. Гэта ўжо будзе перыяд Вялікага посту, таму трэба падрыхтавацца да новых мелодый.

Пытаюся ў Ігара пра яго новы від занятасці. На што ён адказвае: “Ведаеце, для мяне касцельная музыка – гэта нешта зусім новае. Спевы адрозніваюцца ад свецкіх твораў не толькі самім зместам, але і кампазіцыяй. Зусім іншая мелодыка. Я з радасцю пагадзіўся іграць на святой Імшы, таму што бачу: парафіянам не стае дакладнасці ў выкананні спеваў. Большасць з іх не ведае нотаў, а хочацца, каб спевы гучалі правільна”.

На маё пытанне, ці даўно Ігар ходзіць у касцёл, ён шчыра адказвае: “Мяне пахрысцілі ў Ідолцкім касцёле ў свядомым узросце ў 1969 годзе. З таго часу жыццё мяне закруціла, і я толькі і памятаў малітву “Ойча наш”. Вось цяпер пачаў успамінаць свае карані і пакрысе спазнаваць каталіцкую традыцыю. Я моцна веру, што малітва верніка мае вялікую моц. Так не раз адбывалася са мною. У экстрэмальных сітуацыях заўсёды маліўся малітвай “Ойча наш”, якой мяне навучыла мая цёця. Лічу, што гэтая малітва і апека Анёла-Ахоўніка выратоўвалі мяне, калі трапляў у бяду”.

“Што найбольш складанага ў касцельнай музыцы?” – пытаюся. “Напэўна, тое, што людзі любяць зацягваць спевы. Я па нотах бачу, што тэмп павінен быць іншы. Бывае і так, што калядныя спевы, якія па сваім характары вельмі жывыя і радасныя, гучаць у выкананні парафіян вельмі распеўна. Мне ж як духаўніку, звыкламу да аркестраў, хочацца вытрымліваць больш хуткі тэмп з вывераным тактам. Але мы спраўляемся”.

“Ці цяжка іграць на карнэце?” – пытаюся. Ігар з усмешкай адказвае: “Ну, вы можаце паспрабаваць, але ў вас нічога не атрымаецца. Па-першае, інструмент ужо астыў, яго трэба сагрэць сваім дыханнем”. Ігар бярэ ў рукі латунны інструмент і пачынае дзьмухаць у яго, каб той сагрэўся. “Затым неабходна мець правільную пастаноўку вуснаў і дыханне. Без гэтых элементаў іграць на духавым інструменце немагчыма. Хоць у карнэце і ёсць усяго тры клавішы”.

З інструмента ліецца мелодыя. “Гэта фактычна арган, толькі з адным рэгістрам”, – падумалася мне. Парафію ў Лёзне пакідаю з прыемнымі ўспамінамі. Радасна, што людзі імкнуцца да касцёла, знаходзяць сваю дарогу да Бога нават у старэйшым узросце. Ніколі не позна ўспомніць пра свае вытокі. Ніколі не позна ўвайсці ў парафіяльную супольнасць. А раптам менавіта мяне якраз там не хапае?! А можа, мае таленты сёння вельмі патрэбныя Богу і людзям?

Выкананне рэлігійнага спеву Ігарам Лакоткам можна паглядзець, адсканаваўшы смартфонам QR-код:





## Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасланць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з’яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага апаратара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на “Каталіцкі Веснік”, Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 7**

1 – Б; 2 – Б; 3 – В; 4 – А; 5 – В; 6 – В; 7 – В; 8 – А; 9 – Б; 10 – А

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб’яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і зверстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 780

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3300 экз.
Аб’ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 17.02.2021 г. у 18.00

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь